ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

17 студзеня 1997 г. № 3 (3879) Кошт 3 000 руб.





# ЧАС ВУНДЭРКІНДАЎ МІНУЎ?

**"Іван Сцепанцоў. Юны піяніст з Мінска (Беларусь), якому нядаўна споўнілася 17, выступіў з адточанай да дасканаласці, бліскучай санатай Скрабіна (Fis dur,op. 30), не злоўжываў педаллю для змякчэння гукаў ці змяшання фарбаў гучання. Бліскуча, жыва і нова сыграў ён таксама Скерца Шапэна (op. 39). Дзякуючы выдатнай тэхніцы, ягоная ігра ўздзейнічае надзіва празрыста і лёгка, і маладому спадару можна прадказаць бліскучую будучыню".**

**Калі ласка, не зважайце на каструбаваты стыль гэтай цытаты: яна — з артыкула ў "Лейпцыгскай народнай газеце". Публікацыя з'явілася як аператыўны водгук на падзею ў музычным свеце, што адбылася мінулай восенню. Вядома, свет музычны вялікі, падзей у ім адбываецца мноства, ды гэтая — не "адна з многіх".**

*(Працяг на стар. 10)*

***Бурнае палітычнае жыццё вяртаецца на Беларусь пасля кароткатэрміновага адпачынку. Мінулы тыдзень стаў багатым на падзеі і паведамленні неардынарныя, нечаканыя і нават сенсацыйныя. Азначае гэта, што ён можа стаць шмат у чым вызначальным, а, магчыма, і пераломным. Не дзіва, што адразу некалькі палітыкаў з цалкам супрацьлеглымі пазіцыямі і перакананнямі заклікалі ў друку беларусаў не паддавацца песімізму і верыць у блізкую лепшую будучыню. Што ж, і сапраўды, з аднаго боку — закончана фарміраванне двухпалатнага парламента, праведзены істотныя змены ў Кабінеце Міністраў і ўлада ў краіне цяпер практычна ў руках аднадумцаў, якім ніхто і нішто не павінна перашкаджаць працаваць на ўздым эканомікі, з другога боку — чаканай стабілізацыі не відаць, эканамічны крызіс паглыбляецца, апошнія прызначэнні паказалі, што кадравая кладоўка ў прэзідэнта, аказваецца, не бяздонная, свет і суседзі (акрамя Расіі) ад Беларусі адварочваюцца і дапамагаць не збіраюцца, нібыта пераможаная перад рэферэндумам апазіцыя не здаецца, і, галоўнае, народ зноў пачынае цікавіцца палітыкай і эканомікай... Але, бадай, галоўнай падставай для "аптымізму" ўладных структур можа быць бязмежнае цярпенне беларускага народа і яго ж бязмежная вера ў "добрае начальства". Тут ужо апазіцыі "крыць" няма чым...***

### ПРАПАНОВА ТЫДНЯ

Прэзідэнт Расіі Б.Ельцын даслаў прэзідэнту Беларусі А.Лукашэнку пасланне з прапановай па паскарэнні і паглыбленні інтэграцыі паміж дзвюма краінамі, а таксама аб магчымым правядзенні адпаведнага рэферэндуму. Канкрэтны тэрмін новага плебісцыту не называецца, але ўжо ў першых каментарыях паслання ён прагучаў: з беларускага боку — сакавік, з расійскага — 2 красавіка. З самога ж паслання вынікае, што працэс інтэграцыі — справа няпростая і патрабуе доўгай падрыхтоўкі, уніфікацыі заканадаўства і г.д. Гэта і дало падставы многім аглядальнікам меркаваць, што пасланне ні больш, ні менш — чарговы палітычны ход каманды Б.Ельцына з мэтай адцягнуць увагу ад хваробы прэзідэнта і захаваць трон, які апошнім часам моцна захістаўся.

### РАШЭННЕ ТЫДНЯ

Парламенцкая асамблея Савета Еўропы пазбавіла Беларусь права спецыяльна запрошанай. Гэта першы крок да таго, каб у рэшце рэшт не прыняць нашую краіну ў Савет Еўропы. Прычына пазбаўлення права — непрызнанне вынікаў рэферэндуму і, адпаведна, новай канстытуцыі і новага парламента.

### СЕНСАЦЫЯ ТЫДНЯ

Пасля чутак, што галоўным прэтэндэнтам на крэсла прэм'ер-міністра з'яўляецца старшыня Нацбанка Тамара Віннікава, яе адстаўка і арышт былі зусім нечаканымі нават для людзей дасведчаных у "вялікай палітыцы". Паводле паведамленняў, прычынай звальнення і арышту Т.Віннікавай стала злоўжыванне службовым становішчам і нанясенне страт дзяржаве ў асабліва буйных памерах падчас працы старшынёй праўлення "Беларусбанка". Вядзецца следства... У той жа час сам падаў у адстаўку і міністр фінансаў Павел Дзік. Прэзідэнт прыняў яе. Прычыны звальнення "па ўласным жаданні" не называюцца.

### ПРЫЗНАЧЭННЕ ТЫДНЯ

Адстаўка міністра замежных спраў Беларусі Уладзіміра Сянько ўспрынята як належнае — ён яўна не ўпісваўся ў каманду А.Лукашэнкі, але сам падаць у адстаўку нават у самыя крызісныя дні не адважыўся. Як належнае ўспрынята і прызначэнне на пасаду кіраўніка МЗС Івана Антановіча. Дзіўна толькі, чаму дзяржаўныя газеты некаторыя этапы яго працоўнай біяграфіі сціпла замоўчваюць, хаваючы за словамі "быў на партыйнай рабоце". Тлумачэннем можа быць хіба каментарый да гэтага прызначэння былога міністра замежных спраў П.Краўчанкі, які ў газеце "Свабода" прыгадаў словы самога І.Антановіча: "Дзе б я ні працаваў, там заўсёды ўсё развальваецца. Проста як па Васілю Быкаву — нейкі "знак бяды"...

### НАЗІРАННЕ ТЫДНЯ

Старая "наменклатурная гвардыя", людзі, якія прывыклі служыць і без службы жыцця свайго не ўяўляюць, паступова становяцца апорай "маладога прэзідэнта". А.Малафееў, І.Антановіч, М.Дземянцей ужо ў "камандзе прэзідэнта", а на падыходзе В.Грыгор'еў, А. Камай ды й В.Кебіч... Замена "маладым ваўкам" з першаснай каманды прэзідэнта, як бачым, знайшлася, змены ж "гвардзейцам", большасць з якіх пенсіянеры, пакуль не відаць.

### МЕТАМАРФОЗЫ ТЫДНЯ

Дзіўныя рэчы адбываліся на мінулым тыдні з долaverам на Беларусі. Курс яго за некалькі дзён скочыў ажно да 35 тысяч "зайчыкаў" за адзін "зялёны", а потым за ноч быў "апушчаны" да 22 тысяч. Адначасова з доларам раслі цэны на харчовых і рэчавых рынках. Долар "апусціўся", цэны ж засталіся на дасягнутай вышыні. Не першы раз назіраем мы на Беларусі гэткі "парадокс". І кожны раз пагаджаемся з бессмяротнымі словамі паэта: "Калі зоркі запальваюць — гэта камусьці трэба..."

### НАМЕР ТЫДНЯ

На Беларусі ў хуткім часе можа з'явіцца другі нацыянальны тэлеканал. Ствараецца ён будзе на базе ГРТ і будзе напачатку ўяўляць з сябе тое, чым было БТ гадоў дваццаць таму: самыя цікавыя і папулярныя расійскія перадачы будуць перамяжоўвацца з уласна беларускімі праграмамі. Мала сказаць, што неабходнасць такога канала наспела даўно. Вось толькі ці хопіць імпэту, а галоўнае, грошай у сённяшніх улад на яго арганізацыю.

### АБАРОНА ТЫДНЯ

Група расійскіх пісьменнікаў, сяброў рускага ПЭН-цэнтра, накіравала ў Віцебскі абласны суд ліст у абарону паэта Славаміра Адамовіча, які ўжо амаль год утрымліваецца ў следчым ізалятары. Сярод тых, хто падпісаў ліст, Д.Ліхачоў, А.Бітаў, А.Вазнясенскі, Б.Ахмадуліна, Б.Акуджава, Ф.Іскандэр, А.Прыстаўкін і іншыя вядомыя ў свеце творцы. "Мы лічым, — пішуць расійскія пісьменнікі, — што ў вершы "Убей президента" няма закліку да канкрэтнага дзеяння супраць канкрэтнай асобы і ўвесь верш напісаны ў стылі гратэску, паэтычнага перфаманса... Мы катэгарычна настойваем на спыненні крымінальнае справы супраць Славаміра Адамовіча... Мы зробім усё, каб надаць міжнародны розгалас справе суда над паэтам і будзем шляхам звароту да міжнароднай грамадскасці і арганізацый дабівацца яго вызвалення і спынення справы".



ДЫЯСПАРА

# КАБ ЛЮБІЦЬ БЕЛАРУСЬ НАШУ МІЛУЮ...

***У адным з леташніх нумароў "Літаратуры і мастацтва" мы знаёмілі чытачоў з новаўтвораным Іркуцкім таварыствам Беларускай культуры імя Я. Чэрскага, з жыццём беларусаў Сібіры. Сёння зноў у гасцях у "ЛіМа" заснавальнік таварыства Алег РУДАКОЎ.***

**— Алег, што змянілася ў жыцці таварыства з часу нашай першай гутаркі?**

— Напэўна, самае істотнае, што 30 снежня мы атрымалі афіцыйнае пасведчанне, і цяпер маем юрыдычны адрас. Гэта музей "Дом месціча" па вул. Халтурына, 2. Хаця фактычна адрасам таварыства з'яўляецца мой асабісты адрас. Адсвяткавалі Дзяды. Правялі другі з'езд сяброў таварыства, на якім абрана рада ў колькасці 13 чалавек. Выпусцілі і першы нумар сваёй газеты "Маланка". Яе дэвіз — "Каб любіць Беларусь нашу мілую, трэба ў розных краях пабываць". Там ёсць рубрыкі "Падзеі і справы ІТБК", "Весткі з Бацькаўшчыны" — у апошняй рубрыцы будзем рабіць перадрук найбольш цікавых артыкулаў з беларускай прэсы. Плануюцца наступныя пастаянныя раздзелы: "З гісторыі Беларусі", "Дзіцячая старонка" і "Хатка дзеда Ахрэма". Дзед Ахрэм жыў некалі ў маёй роднай вёсцы Бяздзедавічы на Полаччыне. Яму было 103 гады. Ён расказваў нам, дзецям, розныя гісторыі, пацешкі, загадкі. Менавіта ён першы прымусіў задумацца мяне пра жывое Народнае Слова... У памяць аб гэтым чалавеку я і заснаваў раздзел "Хатка дзеда Ахрэма", дзе будуць друкавацца легенды, быліцы, байкі, загадкі, прымаўкі... Выпускаць газету спадзяёмся два разы на месяц, але сваёй базы для выдання ў нас пакуль няма — ні ксеракса, ні камп'ютэра... Ёсць і яшчэ прыемная навіта — дамовіліся з Цэнтральнай бібліятэчнай сістэмай Іркуцка пра адкрыццё беларускай бібліятэкі. Нам выдзелілі памяшканне старой бібліятэкі, якое патрабуе невялікага рамонту. Праўда, хоць я і кажу "невялікага", але ж мільёны чатыры расійскіх рублёў трэба на гэта знайсці. Аздобіць памяшканне хочам у беларускім нацыянальным стылі — упрыгожыць вырабамі з саломкі, ручнікамі, партрэтамі класікаў беларускай літаратуры. Спадзяёмся стварыць кніжны фонд, падборку газет — у гэтым не абысціся без дапамогі з Беларусі. Дзякуй спадару Яўгену Лецку, які дасылае нам "Літаратуру і мастацтва", "Свабоду", "Нашу Ніву", некаторыя іншыя выданні. Пасля мінулай публікацыі ў "ЛіМе" адгукнуўся амерыканскі беларус Мікола Прускі, які дасылае нам з Амерыкі "Беларускі Дайджэст".

**— А хто будзе працаваць у вашай бібліятэцы?**

— Жадаючыя ёсць... На крайні выпадак дамовімся з тымі дзвюма жанчынамі, што працавалі тут раней.

**— Якія яшчэ планы ў таварыства?**

— Стварыць беларускі маладзёжны клуб. У ім будзе два гурткі — драматычны і краязнаўчы. У драматычны прыйдуць дзеці з дзесяці гадоў, хто ўмее спяваць, танчыць. Навучацца беларускім танцам, песням, будуць прымаць удзел у нашых святах. Краязнаўчы гурток пачне ладзіць падарожжы па Іркуцкай вобласці, каб пабываць у беларускіх паселішчах — пра існаванне такіх я расказваў у мінулай гутарцы.

**— Ці ёсць нейкія сумесныя планы з беларусамі на Бацькаўшчыне?**

— У свой прыезд сюды ў кастрычніку я размаўляў з Міхасём Шаршавіцкім, намеснікам міністра па спорце і турызму, пра стварэнне сумеснага турыстычнага клуба. Мы будзем запрашаць жадаючых з Беларусі ў Іркуцк, і самі будзем наведваць Беларусь. Спадзяюся ў гэты прыезд зноў абгаварыць гэтую справу са спадарам Шаршавіцкім і перайсці да практычнага яе ўвасаблення.

**— Згаданая мінулая наша гутарка называлася "Купалле ў Іркуцку". А цяпер толькі-толькі адсвяткаваны Каляды...**

— Так, і цяперашнюю гутарку можна было б назваць "Каляды ў Іркуцку". Мы святкавалі іх 7 студзеня. Сярод іркуцкіх беларусаў шмат і каталікоў, і праваслаўных, але мы палічылі, што паколькі калядныя святы доўжацца два тыдні, лепш выбраць дзень, калі свята — і для праваслаўных, і для каталікоў. Праўда, асновай сцэнарыя сталіся Каляды, як іх святкавалі яшчэ ў дахрысціянскі перыяд. Усё дзеянне адбывалася на гэты раз толькі на беларускай мове. Мы сабраліся ў мясцовай школе, падрыхтавалі сталы. У нас былі Гаспадар і Гаспадыня ў народных строях. Да іх прыязджалі "госці", прыйшлі калядоўшчыкі: Дзед, Мядзведзь, Каза, Варажбітка, Механоша, Музыка. Прыгожая Каляда несла Зорку. Касцюмы мы ўзялі ў мясцовым музычным тэатры — і там працуюць беларусы. Я быў Дзедам... У святкаванні брала ўдзел каля 70 дарослых, шмат было дзяцей. Прысутнічала і старшыня інтэрцэнтра "Содружество" Помалева Вольга Іванаўна. Ёй вельмі спадабаліся нашы Каляды, і яна запрасіла наша таварыства прыняць удзел у фестывалі "Дружба народов", які пачнецца ў Іркуцку 27 сакавіка. Туды запрашаюцца дзіцячыя гурты ад культурных нацыянальных цэнтраў, з нацыянальнымі праграмамі. Прыемна і тое, што на нашых Калядах прысутнічалі ўсе сродкі масавай інфармацыі — прадстаўнікі трох тэлестудый "АІСТ", "Кур'ер" і "Секам", радыёстанцыі "Волна Байкала", газеты "Советская молодёжь". У радыёэфіры мы ўпершыню перадалі беларускую песню — у выкананні гурта "Палац".

**— Як рэагуюць беларусы Іркуцка на падзеі ў Беларусі?**

— Па-рознаму. І мы не ставім сваёй мэтай палітычныя дыскусіі, мы — культурнае таварыства... Ёсць у нас і іншыя клопаты. Напрыклад, усіх каталікоў у Сібіры лічылі палякамі, хаця сярод іх шмат беларусаў. Яны з'явіліся ў Сібіры пасля паўстання 1863 года, якое называлі польскім... І цяпер наша задача — давесці, як у выпадку з Чэрскім, пра беларускае паходжанне многіх вядомых асоб. У Іркуцку ёсць касцёл, дзе захоўваюцца рэшткі святога Рафаіла, якога таксама лічаць палякам. Але цяпер мы дакладна ведаем, што ў міры ён зваўся Юзаф Каліноўскі і быў стрыечным братам Кастуся Каліноўскага. А значыць, беларусам.

**— Якую яшчэ дапамогу спадзеяцеся атрымаць тут, на Бацькаўшчыне?**

— Некаторыя афіцыйныя арганізацыі абяцалі нам сваю падтрымку, калі мы будзем мець афіцыйнае пасведчанне — цяпер мы такое маем. Няма ў нас беларускіх кніжак, нотаў беларускіх песень, дапаможнікаў па народных танцах, арганізацыі свят. Галоўнае пытанне — фінансавае. Калі знойдзецца на Беларусі арганізацыя, якая захоча пашырыць сферы сваёй дзейнасці на Іркуцк, — мы маглі б выступіць іх прадстаўнікамі. Зазначу, што тавары беларускай вытворчасці карыстаюцца ў Сібіры вялікім попытам.

Добра было б, каб нехта дапамог набыць ксеракс, камп'ютэр. Не хапае і тэхнічнага абсталявання — вось, напрыклад, збіраемся наведаць паселішча сібірскіх беларусаў Тарнопаль, дзе захавалася беларуская мова, пяюцца беларускія песні. І хацелася б зрабіць запісы, але — не маем адпаведнай апаратуры.

Падаю каардынаты для кантакту: *664078, Россия, г. Иркутск, м-н Зеленый, 15-38; тэл. 33-02-75, 33-53-82*

**— Ад імя чытачоў "ЛіМа" і ўсіх свядомых беларусаў жадаю вашаму таварыству плёну і спрыяння ва ўсім.**

**Гутарыла Людміла РУБЛЕЎСКАЯ**

НОВАЕ

# "КАЎЧЭГ" І ГРАЕ, І СПЯВАЕ...

І нічога дзіўнага! Таму што вядомая сталічная фірма "Каўчэг" пачала спраўляць чын студыі грамзапісу, пра якую марна марыла Беларусь некалькі дзесяткаў гадоў. Хто ведае, ці будзе ў нас калі-небудзь на дзяржаўным узроўні наладжаная вытворчасць аўдыёкасет і кампакт-дыскаў з запісамі твораў беларускіх кампазітараў, айчынных выканаўцаў... А вось першыя набыткі "Каўчэга" ў гэтай справе — вядомы. Следам за касетай з творамі беларускіх кампазітараў для гітары (пра што "ЛіМ" паведамляў яшчэ летась) з'явіліся яшчэ тры.

Касета пад назваю "Беларуская сімфанічная музыка" змяшчае аркестравыя творы Яўгена Паплаўскага "Quo vadis" ды "Поразава" (фрагменты), Хорал з Канцэрта для гітары, струнных і званоў Галіны Гарэлавай і Канцэрт N 2 Уладзіміра Дамарацкага для трубы з аркестрам — твор, ганараваны нядаўна Дзяржаўнай прэміяй рэспублікі.

Выйшла таксама касета з музыкай Яўгена Паплаўскага ("Навелета" для гітары, Саната для альта і фартэпіяна, эскізы для аркестра "Поразава", сімфонія для тэнара, хору і аркестра "Lux aeterna" на словы Лявона Эмеліта).

Творы Льва Абеліёвіча ("Тры рамантычныя прэлюдыі", "Тарантэла"), Аляксандра Літвіноўскага ("Perpetuum mobile", "Passacaglia"), Уладзіміра Дарохіна ("Інтэрмецца", "Белая Вежа", "Скокі"), Вячаслава Кузняцова (Саната) гучаць на касеце знанага беларускага піяніста, лаўрэата Міжнароднага конкурсу Алега Крымера.

Набыць музычныя навінкі "Каўчэга" можна ў сталічнай краме "Ноты".

Што тут казаць: нават мінчукам не кожны дзень выпадае слухаць творы айчынных кампазітараў у жывым гучанні, а самы поўны збор запісаў ёсць толькі ў фанатэцы Дома радыё. Так што дзякуй "Каўчэгу"! Вось каб яшчэ і дзяржаўныя органы культуры далучыліся да справы фірмы ў падтрымцы, у распаўсюджванні беларускай музыкі. Дарэчы, у многіх нашых гарадах ёсць ліцэі мастацтваў, музычныя школы і вучэльні, а значыць ёсць і патрэба ў своеасаблівых фонахрэстаматыях...

**С. Б.**

ЛіМ ЧАСАПІС

## ЯК ДАНІНА ЎДЗЯЧНАСЦІ

**Год назад не стала народнага пісьменніка Беларусі Івана Чыгрынава. Такі ўжо трагічны лёс нашых талентаў: адыходзіць у нябыт у самым росквіце свайго даравання.**

**Не, Іван Гаўрылавіч не ў нябыт пайшоў, а ў вечнасць. І пацвярджэнне таму — яго творы, што карыстаюцца вялікай папулярнасцю ў чытача. І, несумненна, будуць карыстацца датуль, пакуль жыць беларусам. Балазе, выдавецтва "Мастацкая літаратура" ажыццяўляе цяпер выпуск Збору твораў І.Чыгрынава ў шасці тамах. І глыбокі сэнс набывае назва яго апошняга рамана "Не ўсе мы згінем".**

**У гадавіну смерці І.Чыгрынава яго магілу наведалі родныя, блізкія, пісьменнікі, сябры. Былі ўскладзены жывыя кветкі. А старшыня праўлення Беларускага фонду культуры У.Гілеп, сакратары праўлення Саюза беларускіх пісьменнікаў В.Супрунчук і А.Пісьмянкоў сказалі колькі прачулых слоў пра выдатнага пісьменніка, актыўнага грамадзяніна, цудоўнага чалавека.**

## ЛАЎРЭАТЫ "КРЫНІЦЫ"

**Часопіс "КРЫНІЦА" вызначыў сваіх лаўрэатаў за 1996 год. Трэба зазначыць, што выбітных тэкстаў выдрукавана было шмат, а прэміяльных намінацый, як заўжды, толькі чатыры.**

**Аднак быў знойдзены кансенсус адносна наступных чатырох лепшых публікацый часопіса:**

**— апавяданняў (N 18) і аповесці "Збіральнік страху" (N 22) Юры СТАНКЕВІЧА;**

**— нізкі вершаў "Зялёны Луг" (N 18) Леаніда ГАЛУБОВІЧА;**

**— гронкі паэзіі "Анадыямэна" (N 21) Галіны ДУБЯНЕЦКАЙ;**

**— п'есы "Клеменс" (N 20) Казіса САЯ (Літва).**

**"ЛіМ" далучаецца да віншаванняў лаўрэатаў, цяпер ужо братняга нам, часопіса "КРЫНІЦА".**

## ВАКОЛ ЁЛКІ З ...ДЗЯДЗЬКАМ АНТОСЕМ

**Супрацоўнікі Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа прыклалі ўсе намаганні, каб першыя дні новага, 1997 года пакінулі глыбокі след у дзіцячых сэрцах. З 2 па 6 студзеня тут праходзілі навагоднія ранішнікі "У гасцях у дзядзькі Коласа". Школьнікі атрымалі цудоўную магчымасць пакарагодзіць вакол ёлкі на сядзібе Якуба Коласа, сустрэцца не толькі з дзедам Марозам, але і з цёткай Ганнай, дзядзькам Антосем (героямі "Новай зямлі"), ролі якіх выконвалі акцёры .**

**У гэтыя дні гасцей музея зачароўвалі гукі беларускіх музычных інструментаў. Супрацоўнікі музея праводзілі казачнае падарожжа па творах Якуба Коласа, а затым дзеткі ўдзельнічалі ў конкурсах і віктарынах, спявалі навагоднія песні разам з дзедам Марозам і салістамі ансамбля народнай музыкі, песні і танца "Вяселле", дружна адгадвалі загадкі. Як заўважыла дырэктар музея З. Камароўская: "Мы былі прыемна здзіўлены, калі пачулі, колькі вершаў на беларускай мове ведаюць нашы дзеткі, як няблага знаёмы яны і з творчасцю песняра". І таму невыпадкова ніводзін удзельнік не застаўся без падарунка.**

**А якое ж свята без салодкага стала! У канцы ранішніка дзяцей частавалі чаем з цукеркамі і пячэннем.**

**Дзейсную дапамогу ў правядзенні ранішнікаў аказала адміністрацыя Савецкага раёна г. Мінска.**

**Л. К.**

## СУПРАЦЬ СНІДА

**Міністэрства культуры, Міністэрства аховы здароўя, Беларускі Саюз мастакоў абвясцілі чарговы тур адкрытага рэспубліканскага конкурсу на стварэнне лепшага твора плакатнага мастацтва пад дэвізам "Небяспека — СНІД".**

**Галоўнай мэтай конкурсу з'яўляецца адлюстраванне сродкамі плаката глабальнай небяспекі СНІДа — цяжкага інфекцыйнага захворвання, з якім змагаецца чалавецтва планеты.**

**Конкурс праводзіцца ў тэрмін з 1 снежня 1996 года па 1 красавіка 1997.**

**Удзельнікі конкурсу ў вызначаны тэрмін падаюць свае прапановы журы па адрасе: г. Мінск, вул. Казлова, 3, Палац мастацтваў.**

**За лепшыя плакаты ўстанаўліваюцца тры прэміі:**

**адна першая — 4 млн. рублёў**

**адна другая — 3 млн. рублёў**

**адна трэцяя — 2,5 млн. рублёў.**

**Кансультацыі адносна тэматыкі конкурсу, тлумачальныя матэрыялы можна атрымаць у Рэспубліканскім цэнтры па прафілактыцы і барацьбе са СНІДам *(220030, г. Мінск, вул. Ульянаўская, 3, тэл. 27-18-24).***

# НЕ ПРАГНЕВАЙСЯ, БОЖА...

## З ДАРОЖНЫХ ГУТАРАК

### *АД ШЧЫРАГА СЭРЦА КАЖУ*

— Даруй, Божа, таму, хто гэта зрабіў. Пасадзіла я на выдзеленых у полі дзвюх сотачках пятнаццаць каліўцаў бульбы. Раненько пасадзіла, як толькі снег сышоў. Там зямельцы гатавацца не трэбо, пясочак, хутка прасохла, прагрэлася, вось я і ўкінула. Уцяпліла, пакрышыўшы конскія яблыкі, што падвярнуліся на дарозе, плёнкай накрыла. Хай, думаю, будзе ранняя бульбачка ўнучаняткам маім дарагім. Капаць не спяшалася, бо яны затрымаліся, на большанькую разлічвала. І што ж вы думаеце? Нехта выпатрашыў усе каліўцы да аднаго. Не ўсе мне паверыць, але ад шчырага сэрца кажу: болей, чым бульбы, шкада мне таго, хто гэто зрабіў, губячы душу сваю, парушаючы запавет Божы "Не ўкрадзі". Даруй яму, Божа, не пакарай за нас, грэшных.

### *ПАБЫВАЛА НА ТЫМ СВЕЦЕ*

— Балюча бачыць, як людзі лаюцца, бэсцяць адно аднаго. Я сама, грэшная, атрутным сваім языком жаліла нават блізкіх, — звярнулася да мяне незнаёмая шляхетная жанчына падчас транспартнай перапалкі дзвюх кабет і, з патаемнай даверлівасцю, сціпла прадоўжыла: — Я ад злосці свае вылечылася, як пабыла на тым свеце. Так, так, не здзіўляйцеся, я ў сваім розуме, — патлумачыла яна, заўважыўшы мой запытальны позірк. — У стане клінічнай смерці я наблізілася, мабыць, да таго самага раю, вылецеўшы праз нейкую трубу. Што за прыгажосць там! Я і цяпер часта сумую па ёй, асабліва калі мне бывае дрэнна. — Задуменна памаўчаўшы, паведаміла галоўнае: — Не пусцілі мяне туды. "Нельга табе, падрыхтуйся спачатку", — сказаў, адпраўляючы мяне назад, ветлівы дзядок, які сядзеў на аблачынцы пры ўваходзе. Вялікія выпрабаванні мне цяпер ідуць адно за другім. Уцеха сынок, які нарадзіўся пасля. Жыве Нябесным, марыць стаць святаром... 

### *ЧАЛАВЕК БЕЗ ПАСТА, ЯК НЕ ВЫПАРАНЫ КІПНЕМ ГЛАДЫШ*

— Цяпер людзі многа хварэюць, бо да пастоў не прывучаны. Іншы думае, чым болей напакуецца, тым здаравей будзе. І дзень у дзень гэтак. Які ж кіндзюк, як бы ён спраўна сам ні апаражняўся, не папсуецца, калі яго пхаць і пхаць, не мыючы? Чалавек без паста, як не выпараны кіпнем гладыш з-пад малака, у якім свежае малако адразу і пракісне, і прагоркне. Але ж і пост без малітвы, як інструмент без музыкі, не дасць душы асалоды.

### *У ДОБРЫХ БАЦЬКОЎ ДОБРЫЯ ДЗЕЦІ*

— Цяперашнія дзеці, як сокавыціскалкі, толькі і ведаць, каб з бацькоў сокі выціскаць. Я гляджу на суседзяў сваіх. Як прыедуць дзеці кабана калоць, дык так і віжуюць, каб больш сабе выгадаць, а то і перасварацца, маўляў, абдзялілі.

— Не трэба, грэх гэтак казаць. Усякія ёсць і бацькі, і дзеці. У добрых бацькоў і дзеці добрыя. Бацькі самі вінаватыя, калі дзеці абы-якімі выраслі. Калі бацькі набожныя, справядлівыя, не сварацца, не сквапнічаюць, то і дзяцей Бог доляю не абдзеліць, і будуць людзі, як людзі. Я вось гляджу на дзяцей брата свайго. Падарылі яны бацьку на дзень нараджэння дарагую зімовую шапку, а яе моль з'ела ўшчэнт. Дык яны другую дарагую купляюць, ад сябе адрываюць, самім жа столькі ўсяго яшчэ трэба. Малодшанькая аж праслязілася, калі тую лысую шапку ўбачыла. Я пашуткавала, кажу, можа, гэта бацьку вашаму кара такая, каб нарэшце апамятаўся, ды не пракурваў столькі, а больш пра дзяцей думаў, мо не варты ён падарунка такога? А яны мне ў адказ: "Мы ўжо дарослыя, дзякуй за тое, што думаў пра нас, як малыя былі". Гэтак ужо шануюць, гэтак ужо шануюць бацькоў сваіх, то Бог і ім дае добрую долю...

### *Я НЕ ЛІЧУ СЯБЕ ГРЭШНЫМ*

— Калі ён ёсць, Ваш Бог, то няхай бы ўзяў і перанёс мяне куды мне патрэбна. Ну, калі не мяне, нехрысця, то хоць бы вас, веруючую, каб не мёрзнуць тут на прыпынку, — зларадна пакпіў мужчына з калючым позіркам бязбожніка са сваёй знаёмай, сустрэўшыся на аўтобусным прыпынку ў моцны мароз. І дадаў: — Ваш Бог толькі абмежаванняў ад вас чакае ды паклонаў размаляванай фанеры. Вам, кажуць, нават смяяцца нельга.

— Хто гэта вам сказаў, што нельга смяяцца? — у сваю чаргу запытала жанчына. — Грэх злосна кпіць, асуджаць чалавека, з яго грэху, бяды смяяцца, а калі прыстойны смех, то чаму не пасмяяцца? Без сатанінскага рогату, вядома.

— Выходзіць, што я крыху пераблытаў, гэта плакаць для вас смяротны грэх.

— І тут вы памыліліся. Смяротны грэх не слёзы, а нуда, адчай, а слёзы якраз на ачышчэнне ад грахоў працуюць. У вас ёсць добры шанц пазбавіцца ад усіх грахоў адначасова — праз Хрышчэнне.

— А чаму вы думаеце, што я грэшны? Я не лічу сябе грэшным.

— Адразу відаць атэіста з яго абароннай пазіцыяй. Сярод малітваў на сон ёсць малітва да Прасвятога Духу аб дараванні магчымых грахоў з пералікам: ці імем Тваім кляўся, ці зганьбіў каго ў думках сваіх, ці каго папракнуў, ці паклёпнічаў на каго ў гневе сваім, ці сапсаваў настрой, ці ўчыніў звадку, ці каго асудзіў, ці ўзвысіўся, ці разганарыўся, ці разгневаўся, ці, як стаяў на малітве, розум блукаў наконт мірскіх прыстасаванняў, ці распуства задумаў, ці аб'еўся, ці абпіўся, ці без розуму смяяўся, ці хітрыкі выношваў, ці дабрачыннасць заўразіла чужая, ці непатрэбнае гаварыў, ці з грэху брата майго пасмяяўся — безліч грахоў за мною цягнецца: і пра малітву не клапаціўся, і, мабыць жа, шмат чаго яшчэ ўтварыў вераломнага, не памятаю, але ж, безумоўна, болей, чым пералік гэты, натварыў усяго...

### *СІЛА МАЛІТВЫ*

— Цяпер вельмі дорага хвароба абходзіцца, не дакупішся лекаў, нават не хапіла на ўсе рэцэпты, — паскардзілася ўслых пасажырка, перапакоўваючы на каленях сумку.

— Гэта гультаям дорага, — адгукнулася дробненькая бабулька, звяртаючыся да сваёй суседкі, але з яўным разлікам, каб гаворку пачула тая, што распачала. — Хто не лянуецца рано ў нядзельку ўстаць ды ў цэркаў схадзіць ды дома моліцца і посціцца, таму не дорага, таго і хвароба не возьме. А калі трохі і прыцісне за грэх які, то скора і адпусціць, калі адсячэш ад сябе той грэх. Няма нічога мацнейшага за малітву і пакаянне, — запэўніла бабулька. — Так, так, — уключылася ў размову яе суседка, маладзейшая спадарожніца. — Шчырая, чыстая малітва бывае мацней за пілюлі. Балела аднойчы ў мяне галава, так моцна балела, ніякія таблеткі не дапамагалі. Потым паспрабавала выйсці на свежае паветра: можа, палягчае, падумала. Устаўшы, прыпала да Іконы Божае маці Іверскай, памалілася. І па садзе ідучы, увесь час малітву чытала. Вецер быў моцны, а тут і дожджык пачаў накропваць, холадна мне стала. Павярнула, каб ізноў ісці ў хату класціся ў ложак. І раптам як джыгнула мяне ў лоб аса, адкуль яна ўзялася ў дождж і вецер, аднаму Богу вядома. Не ўспела я выцягнуць джала, расцерці, як адразу адчула, што боль адпускае. У хату вярнулася ўжо зусім здаровай. І дрыжыкі адразу прайшлі. Вось такія нябесныя лекі ў мяне атрымаліся...

— Паслухайце сюды, — скіравала на сябе размову мажная кабета, — што я вам раскажу. У нас у сяле ё настаўніца адна, ужо пенсіянерка. Яна ніколі з бабамі не пляткарыць, у царкву ходзіць, святыя кнігі чытае, газету царкоўную выпісвае. Усіх запрашае да сябе, толькі папярэджвае, каб не ганьбілі ў яе людзей, ведаеце ж, як бабы селавыя могуць часам адна адну зганьбіць. Яна ніколі ні з кім не пасварылася, усе пасты посціцца, здароўем Бог не абідзіў. Яна кажа, што хвароба — гэта кара за грэх, што трэба слёзна каяцца, як у каго выходзіць, і дома вымольваць сабе прабачэнне, і абавязкова ў царкве: і спавядацца, і прычашчацца. Яна вось як разважае: "Калі бацьку дзіця, якое пашкодзіла, скажа: "Татачка, ні бі, больш не буду", ці ж будзе бацька біць такое дзіця? Так і Бог, Бацька Нябесны, ці ж будзе біць ён хваробаю, ліхам таго, хто пакаецца?" Захварэў аднойчы мой муж, гарыць увесь, абы-што нават гаварыць пачаў у гарачцы. Я да яе, суседкі, маўляў, няма ніякіх таблетак, што рабіць, супроць ночы баюся з хворым такім заставацца, можа, скорую выклікаць? У яе ёсць тэлефон, а ў мяне няма. "Пачакай, — кажа, — выклікаць не спяшайся, давай памолімся разам, малітва гуртам хутчэй пачута бывае, толькі трэба, каб з вераю моцнаю маліліся". Ад нашых малітваў слёзы ліліся з вачэй у абедзвюх. Можаце мне верыць, можаце не верыць, як сабе хочаце, але калі прыйшла я дадому, то дзівам дзівілася: гарачка сама па сабе спала і гаспадар мой раніцою пайшоў на работу, быццам і не было ніякай хваробы...

### *БОГ СУДДЗЯ І ЖАБРАКАМ*

— Бог ім суддзя, усім жабракам гэтым, што бянтэжаць збяднелых людзей. Не кожны можа прайсці, робячы выгляд, што не заўважае. Іншы ад сябе, ад сям'і адарве, а падасць. Аднаму Богу вядома, у каго на той час болей грошай: ці ў таго, хто падае, ці ў штатнае папрашайкі. Сама на ўласныя вочы бачу такіх, што з году ў год, штодня з ранку да вечара пабіраюцца. І ўсю болей ля цэркваў снуюць, на спагаду разлічваюць, не памыляюцца. Хай бы хоць не адцягвалі сродкаў ад тых цэрквачкаў, што будуюцца, не развярэджвалі душы тым, хто на малітву настроіўся-наважыўся, а кашалёчак сасмаглы.

— Дай Божа, каб было што даваць. Цяпер жа і па кватэрах ходзяць, просяць грошай, распавядаючы пра здарэнні свае. Паспрабуй не разгубіцца, як у мяне аднойчы было: дома грошай на тры булкі хлеба, а да пенсіі цэлы тыдзень яшчэ. Пазычаць я саромеюся, а не падаць — Бога баюся. Заціснула ў кулачок 5 тысяч аддаць — не аддаць? Не ад сквапнасці ж, так і не аддала грошы, ахвяравала слоік варэння самага лепшага, што пакідала на свята... Не прагневайся, Божа, што не ўтаілася, залічы, дзе спатрэбіцца...

### *МОЦНАЕ БЛАГАСЛАВЕННЕ*

— Учора ўвесь дзень так цяжка было на душы: мала бацькі, дык і сын ужо недзе напіўся. Думаю, чым сварыцца, з'езджу ў новую цэркаўку Ефрасінні святой, памалюся разам з людзьмі — там кожную пятніцу а шостай гадзіне чытаюць акафіст іконе Божай Маці "Неўпіваемая чаша", папрашу Заступніцу Нябесную развеяць маю тугу. Як у канцы да крыжа прыклалася, а свяшчэннік, айцец Уладзімір, мабыць, адчуўшы маркоту маю, яшчэ асобна благаславіў мяне крыжам, а сам такі шчыры, добразычлівы, смірненькі, за такою непадробнаю любасцю да людзей у вялікіх блакітных, як само неба, вачах, быццам Анёл Нябесны сышоў і Святым Духам агортваў, так лёгка мне стала! Здаецца б, увесь свет да сябе прытуліла, каб засцерагчы ад благога. Гэта ж, мабыць, такі ўгоднік ён Божы, такое моцнае благаславенне яго, нездарма людзі праходу яму не даюць, з усіх бакоў цягнуцца, каб благаславіў...

**Ларыса РАБЦЭВІЧ-БРАНАВІЦКАЯ**
*г. Мінск*

АНОНС

Шмат што чалавеку ўласціва. Пры адной умове, канечне: калі ён асоба дзейсная і неардынарная, а да ўсяго валодае талентам. Да такіх людзей адносіцца і пісьменнік Анатоль Кірвель, які жыве ў Санкт-Пецярбурзе, але не парывае сувязяў з Радзімай і піша па-беларуску. Па-свойму, адметна. Гэта, у прыватнасці, засведчылі і яго кнігі, адна з якіх "Урбанія" ў 1995 годзе пабачыла свет .

Працягам "Урбаніі" стаў новы зборнік А. Кірвеля менавіта з такою назваю — "Чалавеку ўласціва...". Як і ва "Урбаніі", у ім прадстаўлены мініяцюры ў прозе, але знайшлося месца і вершам. Хоць, калі пільней зірнуць, і мініяцюры А.Кірвеля — таксама вершы. Вершы таго асаблівага кшталту, калі паэзія выяўляецца не праз жанр твора, а прысутнічае ў самім змесце.

Сапраўдны талент не паддаецца адназначнаму вытлумачэнню. Таму кнігу "Чалавеку ўласціва..." неабходна чытаць уважліва, засяроджана. Тады многае адкрыецца і шмат што стане зразумелым. А найперш, што многія высновы А.Кірвеля — філасафічная завершанасць і напоўненасць радка. І гэта — пры знешняй прастаце сказанага, у чым, для прыкладу, можна ўпэўніцца, чытаючы хоць бы такое: "Пекла не страшнае. Страшней — уяўленне пра пекла", "Смерць прыходзіць не тады, калі яе чакаеш, а тады, калі ёй зручней", "Пошукі радасці — пошукі дылетанта. Радасць не шукаюць — ёю жывуць!".

Адначасова са зборнікам "Чалавеку ўласціва..." у А.Кірвеля кнігай выйшла і паэма "Формула замежжа". Як сказана ў анатацыі, гэта "спроба зазірнуць у тое, што чакае нас у тым будучым, да якога яшчэ не дацягнуцца рукой, але прыкметы якога бачныя ўжо сёння". Твор складаецца з трох частак — "Паралельныя прамыя", "Між тым...", "Магутны Божа". Уласна кажучы, гэта не паэма ў традыцыйным разуменні жанру, а як бы асацыятыўныя імпульсы, што выпраменьваюць аўтарскую думку.

Абедзве кнігі А.Кірвеля пабачылі свет дзякуючы незалежнай творчай асацыяцыі аматараў прыгожага пісьменства "Новая Беларусь" (Санкт-Пецярбург), а прэзентацыя іх адбудзецца ў наступны чацвер, 23 студзеня ў Доме літаратара. Пачатак у 18 гадзін 30 мінут.

# ЖЫТА І ВАСІЛЁК

## СЛОВА ПРА МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

Алесь РАЗАНАЎ

Такое ўражанне: Максіма Багдановіча чытаюць і перачытваюць не толькі прыхільнікі і знаўцы паэзіі, але і сам час, самі падзеі — нібы забыліся нешта і намагаюцца ўспомніць — звяртаюцца да яго за падказкаю і парадай.

Дзіўна, але цяпер, калі крычаць і заяўляюць аб сабе далёка не паэтычныя рэчы, калі беларуская рэчаіснасць стурзана супярэчнасцямі, ён актуальны больш чым хто іншы, ён, пра якога мы кажам, што гэта паэт чыстай красы.

Дык што ведае Максім Багдановіч, чаго не ведаем мы?

Што памятае, чаго не памятаем мы?

І што — якія токі, якія сілы, якія вобразы — жывяць гэтую актуальнасць?

Думаю, адказ тоіцца ў самой з'яве красы, увасобленай Максімам Багдановічам у сваіх творах: яна той непаўторны "згук", на які адгукаецца беларускае светаадчуванне, яна той адмысловы знак, праз які беларускае распазнае, што яно беларускае.

З'ява красы і з'ява Беларусі ў творчасці Багдановіча зродненыя і неаддзельныя адна ад адной, як зоркі-двайняткі, "Каторыя так блізкі паміж сабой І так суцэльна зліваюць сваё святло, Што нам здаюцца адною зоркаю", — як пісаў ён сам.

Усё прыгожае ў яго беларускае і гаворыць па-беларуску, а беларускае, у сваю чаргу, прыгожае і гаворыць аб слаўным, аб шчырым, аб запаветным і, само па сабе, аб прыгожым.

Можна перакроіць межы краіны — і каардыната геаграфіі мусіць згаджацца з дадзенымі акалічнасцямі;

можна гвалтам і запалохваннямі адбіць у народа памяць — і каардыната гісторыі ўжо будзе залежаць ад жэстаў чарговага правадыра;

можна спаіць і растварыць у міграцыйных плынях насельніцтва — і каардыната дэмаграфіі распадзецца на мноства частак.

Але, акрамя гэтых каардынатаў, Айчыну вызнае і вызначае яшчэ каардыната красы, і да гэтай каардынаты маюць доступ не прахадныя і падстаўныя "цяперцы", а захавальнікі вечнасці — мастак ды музыка.

Вось жа, самае кволае — яно ўрэшце і самае трывалае, самае не ўжытковае — яно і самае патрэбнае, самае бяспраўнае — яно і самае праўдзівае.

У многіх сваіх творах Максім Багдановіч звяртаецца да з'явы красы, разважае аб яе прыродзе, асэнсоўвае яе ўласцівасці: у "Перапісчыку", у "Кнізе" і ў "Слуцкіх ткачыхах", у "Санеце", у "Трыялеце", у "Рандо", у "Актаве" і ў "Тэрцынах", у "Мадоннах", у "Лісце..." і ў "Агаце", у "Музыку", у "Апавяданні аб іконніку і залатару" і ў "Апокрыфе". На апошнім з названых твораў я хацеў бы сёння спыніцца, разгледзець яго больш уважліва.

Ёмісты сюжэт, няхітрая фабула — я скаратку, і ў самых асноўных рысах, нагадаю, пра што там ідзе гаворка.

Калі споўнілася мера часу, Ісус Хрыстос зноў сышоў на зямлю са сваімі апосталамі. І хадзіў ён па нашым краі: па Міншчыне і па Віленшчыне, па Задзвінскай зямлі — Віцебшчыне ды Смаленшчыне — і па Магілёўшчыне. Адзеты ён быў дужа проста, а не такога другога прышэсця спадзяваліся людзі. Таму, калі аднаго дня ён падышоў да жытнёвага палетка, дзе людзі былі занятыя сваёй звычайнай сялянскай працай, на іх ніхто не звярнуў асаблівай увагі. Адно музыка, якому цяпер не было чаго рабіць, падышоў да яго і сказаў: сорамна мне, усе людзі працуюць, а я нічым не заняты; нікчэмны я чалавек.

Тады Ісус Хрыстос пытаецца ў яго: скажы, калі спяваюць у вас песні? Музыка адказвае: заўсёды спяваюць. Спяваюць на радзінах і хрэсьбінах, на вяселлях і на хаўтурах, у бяседзе і ў працы, на калядах і на вялікдзень, на зажынках і на дажынках.

Дык жа не саромейся свайго дару, — кажа на гэта Ісус Хрыстос. — Ты не лішні на зямлі, ты патрэбен людзям. Яны любяць твае песні, яны цягнуцца да красы, яны не асудзілі яе, хоць іхняе жыццё беднае і цяжкае.

Тады ў размову ўмешваецца апостал Пётра. Ён, згодна з народным светапоглядам, носіць ключы ад райскай брамы і разважае па-гаспадарску, таму зусім натуральна, што менавіта ён згадвае пра спажытак: дык няхай жа ў песнях будуць карысныя і павучальныя думкі, каб, апрача красы, меўся ў іх яшчэ і спажытак людзям.

І вось тут мы падыходзім да ключавога радка ў "Апокрыфе", тут Ісус Хрыстос вымаўляе формулу — вы яе памятаеце, гэта творчае крэда самога Максіма Багдановіча: няма красы без спажытку, бо сама краса і ёсць спажытак для душы.

На гэтым месцы дазвольце мне прыпыніцца, калі больш дакладна, пераключыць вашу ўвагу на тое, што мы ўжо заўважылі ў "Апокрыфе", — на планы, якія там прысутнічаюць і ўзаемадзейнічаюць.

Разам з Ісусам Хрыстом, апосталамі і музыкам мы пазіраем перад сабою і бачым жытнёвы выспелы светлы палетак, а ў ім акупунктурную кропку — сіні васілёк. Гаспадар, які, дбаючы пра ўраджай, увесь час рупіўся на палетка, усё-такі не вырваў і не стаптаў яго як марнае пустазелле, бо простая краса васілька яму даспадобы; яна з маленства запала яму ў душу, а над душой гаспадар палетка, паэўна, не мае ўлады. Гэта першы план, план тэзы. На ім усё маляўніча і гарманічна.

Другі план, план антытэзы, у "Апокрыфе" аддадзены народу і музыку. Пра іхнія, унутрана праблематычныя, узаемадачыненні я ўжо трохі згадваў. Музыка мае патрэбу ў народзе: ён аддае яму свае песні і як плату за іх прымае ад яго хлеб; таксама народ мае патрэбу ў музыку: ён дае яму хлеб і як плату прымае ад яго "спажытак для душы" — песні. Яны будуць спявацца пры любой нагодзе, і любая нагода дзякуючы песням здольная будзе асвоіцца і ўвесціся ў жыццёвы абсяг.

Трэці план, план сінтэзы, належыць Ісусу Хрысту і апосталам. Іх двое, іх усяго двое: апостал Пётра, які ўдзельнічае ў размове, і апостал Юры, які на працягу ўсяго "Апокрыфа" не вымаўляе ні слова (!), ён як бы адсутнічае, ён як бы забыты. Аднак яго роля не зводзіцца да ролі статыста, наадварот, яна бярэ на сябе надзвычай істотную нагрузку.

Глядзіце, як трансфармуюцца і адначасова паўтараюцца, пераходзячы з плана на план зыходныя постаці! Жыта і васілёк на першым плане, яны адпаведна народ і музыка на другім. Што тычыцца трэцяга плана, то зразумела, хто тут жыта: безумоўна, гэта апостал Пётра. А васілёк? Няўжо сам Ісус Хрыстос? Вунь жа як ён апраўдаў музыку і адвярнуў Пётравы ўдакладненні!.. Семантыка "Апокрыфа" напэўна аддала б гэтую ролю Ісусу Хрысту, калі б не было "нямога" апостала — Юрыя. Васілёк — ён! Ён сам узор прыгажосці. "А прыгожы, — як Юры святы", — згадвае гэтае ўзрушанае параўнанне з Багдановічавай "Агаты"? А маўчыць ён таму, што не мае нічога сказаць звыш самога сябе. Ён гаворыць усім сваім красамоўным выглядам, усёй сваёй



гожай постаццю, усёй сваёй невыказнай прыгажосцю, ён ужо не ўмее гаварыць інакш. Гэтае ўменне засталося на папярэдніх планах, якія маюць магчымасць выявіцца, выказацца і зразумецца, але і там, дзе гаворка звычайна ідзе пра тое, каб апраўдаць, абараніць і сцвердзіць сваё існаванне, ні васілёк, ні музыка не здатны гэта зрабіць; гэта за іх робяць іншыя і як бы наперакор звычайнай, увасобленай у словах развагі, логіцы. Васілёк нелагічны, музыка не лагічны, і не лагічны святы Юры! Яны размыкаюць рэчаіснасць і даюць ёй, на здзіўленне ёй, звыш таго, што яна згадзілася мець. "Візуальны" васілёк — тая кропля, што ўжо выліваецца з чашы збажыны, "згукавы" музыка — той спеў, што вымыкае па-над палеткам людской гаворкі, і "іпастасны" святы Юры — той ясны подзвіг, што творыцца несупынна. У іх ужо няма іх для іх саміх, у іх ужо не гучыць іхняя асабовасць, а гучыць голас Ісціны, і гэты голас кажа: "Добра быць коласам, але шчаслівы той, каму давялося быць васільком".

Жыта не пазнала Хрыста, а васілёк пазнаў, працоўны люд не пазнаў Хрыста, а музыка пазнаў, і святы Юры пазнаў Хрыста гэтак самаадданна, што забыў самога сябе: што яму гаварыць і нашто яму гаварыць, калі гаворыць той, у кім скончыўся час?!

Вечная таямніца мастацтва ў тым, што, дасягаючы сваёй "нябеснай айчыны" і не залежачы ад улады зямлі, і колер, і гук робіцца нечым іншым, чым колер і гук: колер бясколерным, і гук бязгучным, прынамсі, для сваіх папярэдніх планаў. Але і вечная крыніца мастацтва таксама ў тым, што перад тым, як засвяціцца, колер мае быць бясколерным, і перад тым, як загучаць, гук мае быць бязгучным.

Вось, бадай, і ўсё пра "Апокрыф". Мушу, аднак, прызнацца, што ў гэтым глыбокім і чыстым творы, аб'яўленым Максімам Багдановічам у "Каляднай пісанцы" ў 1913 годзе, мне як чытачу нечага цяпер не хапае. Чаго? Скажу: гісторыі, працягу ў гісторыю.

Але — і тут аддадзім належнае Максіму Багдановічу — на самым узмежку "Апокрыфа" мы знаходзім дужа важны знак — след, які як бы выходзіць за межы "Апокрыфа" і, яшчэ прыналежачы таму самаму кантэксту, той самай стылістыцы, кажа ўжо пра зусім іншыя рэчы — пра немінучыя разбуральныя зрухі, што маюць настаць і што ўжо настаюць, і што ні ў межах "Апокрыфа", ні ў межах мастацтва змясціцца не могуць. Маю на ўвазе заключныя радкі з "Апокрыфа": "І босыя ногі Хрыста пакідалі на цёплым і мяккім пыле дарогі сляды. Але гора вам, людзі, бо даўно ўжо затапталі вы іх".

Давайце паспрабуем увайсці ў гэты новы — няпісаны — раздзел, у саму гісторыю, у тое, што адбылося і адбываецца з намі.

Людзі затапталі Хрыстовы сляды — і паміж планамі (прыродным, чалавечым і боскім) парушылася сувязь;

людзі затапталі Хрыстовы сляды — і па затаптаных Хрыстовых слядах прыйшлі іншыя істоты, "гора" беларускага народа. Хто яны? Кажучы словамі нашага выдатнага паэта Пімена Панчанкі, гэта — клан, гэта — клас, гэта — гразь.

Прыйшла гразь — і запэцкала прыгожы малюнак "Апокрыфа". Яна запэцкала і пэцкае нашу спадчыну, нашу культуру, нашу мову, нашу гісторыю; яна запэцкала і пэцкае само найменне беларуса, семантыка якога якраз і змяшчае ў сабе тыя колеры, што выяўлены ў нашым, таксама запэцканым ёю, дзяржаўным сцягу.

Выедзьце за межы Беларусі — і вам сорамна будзе назвацца беларусам. Палякам — не сорамна, латышом — не сорамна, літоўцам — не сорамна, украінцам — не сорамна, і нават рускім — не сорамна, а вось беларусам — сорамна.

Гразь упэўнена, што калі яна запэцкае прыгажосць — яна стане ўладарыць над прыгажосцю;

калі яна запэцкае мудрасць — яна стане ўладарыць над мудрасцю;

калі яна запэцкае годнасць — яна стане ўладарыць над годнасцю.

Але гэта не так. І нават калі яна займее сваіх іерархаў — намеснікаў Хрыстовых, якія ў патрэбны час і ў патрэбным месцы скажуць патрэбныя словы, накшталт: "Няма ўлады не ад Бога", гэта ўсё роўна не так.

Апостал, што напісаў згаданыя словы ў сваім "Пасланні да рымлянаў", заклікае падначальвацца вышэйшым уладам, якія ад Бога, а не ад гразі, а гэта не адно і тое ж. Няма і не будзе на гразь Божага блаславення, нават калі яе ўшануюць і ўславяць залежныя ад яе іерархі. Няўжо не відаць: гульня ў цытаванне зусім не бяскрыўдны занятак. Гэтак жа можна ўзаконіць дзеянні рабаўнікоў, гвалтаўнікоў, усемагчымых злачынцаў — хіба яны не маюць рэальнай улады над сваімі ахвярамі?!. І гэтай жа дарогай можна дайсці да ўшанавання і ўслаўлення князя гэтага свету — сатаны, ён жа таксама мае ўладу, і не абы-якую.

Паміж вектарам выслоўя "Няма ўлады не ад Бога" і вектарам высновы "Усякая ўлада ад Бога" велізарная і прынцыповая розніца, і не заўважаць яе нельга. Інакш — лішні Ісус Хрыстос, інакш дарэмны ягоны подзвіг!..

Ніхто гэтак не прагне ўлады і не чапляецца за ўладу, як гразь: такая ў яе анталогія. Але ж не вечна доўжыцца гэтаму ганебнаму стану рэчаў, не вечна гразі панаваць, нават калі ашуканы і запалоханы ёю народ усё яшчэ лічыць, што яна ўдзень і ўначы руплівіцца пра яго дабрабыт!..

Ды не будзе народ апраўданы толькі за тое, што ён народ, але на любым судзе будуць апраўданы тыя адважныя душы, што не скрывілі сваё сумленне і не схіліліся перад уладай гразі.

Мы выступілі за рамкі "Апокрыфа", з жытнёва-васількова́й стадыі тэзы ўвайшлі ў супярэчлівую стадыю антытэзы, але вяртацца назад не будзем, ступім далей і — зноў увойдзем у "Апокрыф". Так, ён можа не толькі папярэднічаць гістарычна-грамадскім падзеям, але і наступнічаць — завяршаць іх, быць іхняй сінтэзай.

(Працяг на стар. 12)

sente" ("Мову, якой размаўляе душа").

У. Скарынкін не валодае італьянскай мовай, ён карыстаўся падрадкоўнікамі, зробленымі яшчэ ў мінулым стагоддзі С. Зарудным і В.Чуйко, быў знаёмы з паэтычнымі перакладамі Д.Міна (адзін з лепшых у XIX стагоддзі, адзначаны Пушкінскай прэміяй) і М.Лазінскага. Але як адзначае Я.Еўтушэнка ва ўступе да кнігі перакладаў Сямёна Кірсанава, "...у перакладзе з падрадкоўніка няма нічога ганебнага, калі адчуваеш душу паэта, бо гэта не менш важна, чым мова".

Для перакладу "Боскай Камедыі" У. Скарынкіна характэрна сэнсавая блізкасць да арыгінала, да яго вобразнага строю і кульмінацый, захоўваецца метрарытмічная структура. Аўтар, па ўласным прызнанні, імкнуўся перш за ўсё перадаць сам дух дантаўскай паэзіі:

***"У волі Божай — мір наш і лагода,***
***Яна той акіян, куды цячэ***
***Ўсё, што стварыла мудрая прырода".***

Пранікненне ў таямніцу мастацкага слова такога гіганта, як Дантэ, не можа не пакінуць глыбокага следу ў душы творцы. Свае думкі і пачуцці, звязаныя з працай над перакладам "Боскай Камедыі", У.Скарынкін выказаў у "Песні перакладчыка", якая суправаджала многія апублікаваныя ўрыўкі і напісана тэрцынамі, як і славуты твор Дантэ:

***Каханне, вера, несціханы хор,***
***Чые напевы нада мной гучалі***
***Усім грымотам лёсу насупор,***

***І памяці разбітыя скрыжалі***
***У час разладу страшнага мяне***
***Да разумення Дантэ набліжалі.***

Існуе паняцце "рускага Дантэ", "нямецкага" і г.д. Дзякуючы У.Скарынкіну, мы атрымалі поўнае права гаварыць пра "беларускага" Дантэ. Хацелася б яшчэ раз працытаваць Я.Еўтушэнку: "Ці ж гэта не цудоўна — самому стаць у цень, каб святло ўпала на іншага. Пераклад у гэтым выпадку падымаецца да ўзроўню суперажывання".

Беларуская данталогія ў параўнанні з іншымі зусім маладая. У сувязі з нядаўнімі публікацыямі ўрыўкаў з перакладзенай "Боскай Камедыі" з'явілася некалькі цікавых артыкулаў, прысвечаных жыццю і дзейнасці вялікага італьянскага паэта, і хочацца спадзявацца, што новы штуршок гэтая галіна нашага літаратуразнаўства атрымае з выхадам "Боскай Камедыі" па-беларуску асобнай кнігай.

**Аксана ДАНІЛЬЧЫК**

---

***Не збіраць надзей, не катурхаць дум,***
***не шукаць свайго, не сваё не ўзяць.***
***І забыць, што ёсць мітусня і тлум,***
***о, каб толькі Вам не пра гэта знаць.***

Вершы Н.Загарэўскай цікавыя тады, калі яны падмацаваныя асабістымі перажываннямі і назіраннямі. У адрозненне ад паэтаў "са стажам", ёй яшчэ, відаць, незнаёма паняцце "рабіць вершы", і яна спадзяецца толькі на сваю інтуіцыю, на ўласныя пачуцці, якіх, праўда, часам бывае недастаткова, каб верш "загучаў".

З другога боку, вобразная і стылёвая адметнасць, як і глыбіня думак, — сведчанне станаўлення паэта як асобы, якое не адбываецца раптоўна і можа доўжыцца даволі працяглы перыяд. Але ёсць яшчэ "першапачатковы капітал", зыходны матэрыял — талент, які праяўляе сябе (альбо не — і тады ўжо ніякая праца "да сёмага поту" не дапаможа) з самых першых крокаў у літаратуры. Той славуты "адзін працэнт", які робіць з рамесніка майстра. Тое, што ім Н. Загарэўская надзелена, бясспрэчна.

Прачытаўшы гэты невялікі зборнічак, застаецца ўражанне, што сустрэўся з незнаёмым чалавекам, які раскрыў перад табой сваю душу. Такой бяды, што пра тое, пра што ён расказаў, ужо не раз гаварылі да яго — Купала, Багдановіч, Куляшоў, Танк — вядома, маючы на ўвазе свае перажыванні, свае пачуцці. Словы ніколі не паўтараюцца. Словы кожны раз нараджаюцца наноў. Тым больш, калі іх прамаўляе паэт.

***Я ціха адыду, без жалю***
***і без злосці,***
***пакіну шэрань восеньскіх палёў,***
***пакіну дом твой,***
***дзе ніколі госцем***
***я не была.***
***Пакіну ўсё тваё.***
***І адыду туды***
***спалохана, нясмела,***
***дзе больш з тваім не стрэнецца пагляд,***
***каб восень зноў твая***
***павесялела.***
***Я знікну.***
***Не вяртай мяне назад.***

Сваю маленькую зорачку на небасхіле паэзіі Ніяна Загарэўская ўжо здолела запаліць. Няхай сабе зорачка яшчэ ледзь бачная і яе пакуль можна зблытаць з іншымі, але верыцца ў яе шчаслівы лёс.

**Алесь БАДАК**

---

БЛІЦ-КРЫТЫКА

# "ЖОРСТКІ ТЭАТР" ЮРЫЯ СТАНКЕВІЧА

***Сёння ў рубрыцы "Бліц-крытыка" абмяркоўваюцца творы Юрыя Станкевіча, змешчаныя на працягу мінулага года ў часопісах "Крыніца", "Полымя", штотыднёвіку "Літаратура і мастацтва".***

***У абмеркаванні бралі ўдзел: Уладзімір Арлоў, Яўген Гарадніцкі, Уладзімір Конан, Наталля Кузьміч, Раман Тармола, Галіна Тычка, Вольга Шынкарэнка, Алена Яскевіч.***

***Парадак пералічэння прозвішчаў не супадае з парадкам друкавання адказаў.***

У творчай манеры Юрыя Станкевіча ёсць нешта, што родніць яго з Адамам Глобусам. Гэта найперш цікавасць да незвычайных, анамальных з'яў жыцця, розных гідкасцяў і жахаў. Аднак Адам Глобус адкрыта і свядома працуе ў рэчышчы масавай культуры, а Станкевіч, здаецца, лічыць свае творы ўсё ж найперш літаратурай мастацкай, і таму ён імкнецца закранаць у іх важныя грамадскія праблемы. Глыбокі псіхалагічны падтэкст ён стварыць не ў стане, і, адчуваючы гэта, ён выбраў для сябе манеру абыякавага бясстраснага апавядальніка. Нязвыклы змест, незвычайныя для нашай літаратуры героі і сюжэтныя павароты ў творы — усё працуе на яго карысць. Выглядае, што Станкевіч існуе на памежжы масавай і мастацкай культур. А гэта ўжо тэма для больш грунтоўнай гаворкі.

●

Гэта прадстаўнік новай прозы, якая не трымаецца ні класічных традыцый, ні пост-мадэрнізму, гэта пошукі і стылістыкі, і майстэрства. Адсюль — і прыманне гэтай прозы, і непрыманне. Закінуць аўтару можна папрок у тым, што ўсе постаці, якія ён апісвае, як на адзін твар.

●

Па публікацыях у "Крыніцы" апавяданняў "Апошні сеанс" і "Совы спяць днём" адкрыў для сябе новага празаіка. У яго ёсць і талент, і прафесіяналізм, і пачуццё меры, і добры густ. Але ёсць заўвага — яна тычыцца і ўсёй сучаснай беларускай прозы. Нешта мы прывыклі да дыяпазону агіднага, брыдкага, нібы ўсе іншыя эстэтычныя катэгорыі зніклі. У прынцыпе — можна пісаць і пра пекла, і пра рай, і пра сярэдзіну між пеклам і раем... Парадавала веданне дэталяў. У апавяданні "Совы спяць днём" адчуванне, што аўтар сам быў героем. Калі паказваць зло ў стылі Дастаеўскага — гэта добрая літаратура. Калі ў іншым — проста крымінальная хроніка. Юрыю Станкевічу ўдалося зрабіць гэта на добрым мастацкім узроўні, што рэдка каму ўдаецца.

●

Антанін Арто, калі рэфармаваў тэатр, сыходзіў з прынцыпу "жорсткага тэатра". Каб прабіцца да душы гледача, праз яго не самую тонкую скуру, трэба яго як след "завесці", нават напалохаць. Юры Станкевіч аб'ектыўна сваёй творчасцю адпавядае "тэатру жорсткасці". Лепшыя яго апавяданні напісаны ў тым рэчышчы, прабіваюцца да душы. Я думаю, каб метафізіка магла праарваца скрозь агрубелую скуру, трэба мастацтва, якое б нават палохала. Гэтым і моцны Станкевіч. Праз страх, чарнуху ён гаворыць пра вечнае.

А яшчэ мне падабаецца ягоны песімізм.

●

Юры Станкевіч падае жыццё ва ўсёй складанасці і супярэчлівасці, а часам нават і трагічна. Умее лаканічнымі сродкамі будаваць сюжэт. Апошнім часам адышоў ад рэалізму, пайшоў не без поспеху ў рэчышча фантастычна-прыгодніцкага кшталту.

●

***Ён першы снег не лепіць з ваты,***
***Развагу ловіць лепш, чым гук.***
***Не кансерватар, не наватар,***
***І... не звычайны пісарчук.***

***Ягоны сказ — не хлопец-звада,***
***З якім усе пруць бавіць час.***
***Ды знакамі ён да нападу***
***Застрашыў і сябе, і нас.***

●

Юры Станкевіч — гэта знак для сучаснай беларускай літаратуры ці не знак? Ці гэта сведчанне яе цяперашняга стану, ці проста адзнака "мімалётнасці", міжвольнай "цякучасці" літаратурнага працэсу? Ці проста напамінак пра тое, што жылі, пісалі, тварылі прадстаўнікі пэўнага пакалення?.. Полыск нацыянальнай свядомасці ў яе літаратурным (традыцыйным) увасабленні... Усё мінае... Але штосьці ніколі не мінае...

●

Здаецца, Юры Станкевіч ніколі не прэтэндаваў на правы заснавальніка ў сучаснай літаратуры нейкай адметнай плыні пісьма. Яго папярэднія творы не адрозніваліся неардынарнасцю ўзнятых праблем, выключным стылёвым наватарствам. І ўсё ж у параўнанні з іншымі калегамі ён адразу вылучыўся прыемнай акуратнасцю ў распрацоўцы задуманых сюжэтных ліній, падачай і абмалёўкай характараў як людзей, так і звяроў (воўк Луп, дзік Рванае Вуха). Арсень у аповесці "Анёлы на бальшаку" з аднайменнага зборніка, як і Марка Вальнец з новага твора эксперыментуюць са страхам, пераадольваюць яго, кідаючы выклік людской жорсткасці, усёй зямной беспрасветнасці. Яна — ад аматараў нажышча нават на мёртвых, ад застыласці душ і сэрцаў, ад іх заўсёднага страху. А людзі, якія не ўмеюць не баяцца, не здольныя ні на што вартае. Тых, хто не баіцца, сёння адносна мала. Сярод іх — і Юры Станкевіч са сваімі героямі. Гэта крыху абнадзейвае.

У наступнай рубрыцы "Бліц-крытыкі" прапануюцца для абмеркавання "Практыкаванні" Сяргея Дубаўца і аповесць Уладзіміра Арлова "Краявід з ментолавым пахам" (часопіс "Крыніца"). Выказаць свае меркаванні можна па тэл. 233-19-85 рэдактару аддзела крытыкі "ЛіМа" Людміле Рублеўскай.

---

# НЕСТАР МНЕ СЯБРА, АЛЕ...

Якая яна, нацыянальная даўніна — тая, што падпадае пад вызначэнне сівой мінуўшчыны? Звычайна маецца на ўвазе перыяд, звязаны са старажытным Полацкім княствам. А ўвогуле, сяганне ў даўнія падзеі абмяжоўваецца звесткамі, што дайшлі да нас дзякуючы знакамітай "Аповесці мінулых гадоў", напісанай, як вядома, легендарным Нестарам, якога з поўным правам можна назваць свайго роду "бацькам" нашай гісторыі. Але той, хто знаёмы з гэтым летапісным помнікам, ведае, што "Аповесць..." створана ў XI стагоддзі, а таму ахапіць неахопнае Нестар не мог, а засведчыў толькі тое, што мае дачыненне да падзей, пра якія ён ведаў. Няўжо ж, у такім разе, "да Нестара" вялікія прасторы, уключаючы сучасную Беларусь, былі неабжытыя? Вядома ж, не... І даведацца пра гэта можна, калі ўважліва паставіцца да сведчанняў антычных гісторыкаў, якія жылі куды раней і сёе-тое ведалі і пра нашы землі.

На жаль, гэтыя меркаванні ведаюць хіба навукоўцы, што займаюцца вывучэннем адпаведнага перыяду ў гісторыі чалавецтва. І асноўная прычына — звесткі, якія дайшлі да нас, нельга назваць вычарпальнымі, а, значыць, і заўсёды праўдзівымі. Акрамя таго, працы антычных гісторыкаў цалкам не захаваліся. І гэта тычыцца не толькі напісанага "бацькам" гісторыі Герадотам, а і іншымі аўтарамі. Прынамсі, найбольш знакамітым папярэднікам Герадота Гекацеем з Мілета, які стварaў першую працу па геаграфіі "Землеапісанне".

Але ж, калі ўважліва паставіцца да ўсіх гэтых разрозненых звестак, меркаванняў, гіпотэз, можна ўявіць сабе, якой была і Беларусь "данестараўская". Што і робіць у кнізе "Землі амаль невядомыя", выпушчанай выдавецтвам "Полымя", Сяргей Рассадзін.

"Будучая Беларусь паводле антычных манускрыптаў" — у гэтым падзагалоўку сэнс даследчыцкіх абсяг аўтара. С. Рассадзін не проста "перагортвае" шматлікія выданні, шукаючы ў іх, як кажуць, рацыянальнае зерне. Прачытанне даўніх крыніц менавіта даследчыцкае, калі нішто не бярэцца на веру, а дэталёва аналізуецца, супастаўляецца, каб у рэшце рэшт прыйсці да нейкай пэўнай высновы. Канечне, нельга сказаць, што пры гэтым вывад атрымаецца абавязкова вычарпальным. Тым не менш С. Рассадзін імкнецца заставацца як мага больш пераканаўчым.

У гэтым лёгка ўпэўніцца, знаёмячыся з раздзеламі "Шляхі і веды", "Неўры, "змеі" або скіфы?", "Андрафагі — не "людаеды", "Вакол "Гіпербарэі Рыфеі", "Сучаснікі рымлян. Бастарны, венеты, фены, готы", "Споры, спалы, ставаны і славяне"...

А аўтарскія развагі падначалены аднаму — адшукаць нашых продкаў-славян, знайсці адказ на пытанне, адкуль пайшлі мы, беларусы. У выніку атрымліваецца захапляючае падарожжа, пачатак якому кладзецца яшчэ ў III стагоддзі да новай эры, а завяршэнне яго — у VI стагоддзі. Безумоўна, зварот у такую "раннюю" гісторыю яшчэ не дае падстаў з усёй упэўненасцю сцвярджаць, што пра нас ведалі ўжо ў III стагоддзі да н.э.

Дарэчы, і С. Рассадзін наконт гэтага выказвае сумненне, але разам з тым прыводзіць меркаванне вядомага беларускага археолага, этнографіста і фальклярыста Е. Раманава, які пісаў: "Калі прызнаць старажытную раку Эрыдан цяперашняй Заходняй Дзвіной, то яна была вядома ўжо падчас складання "Іліяды"... Вядома было ў старажытнасці і аб існаванні шляху з Чорнага (і Каспійскага) мора ў акіян. Так, яшчэ ў III ст. да н. э. грэкі былі ўпэўнены, што арганаўты, калі ім быў загароджаны выхад з Чорнага мора, прыплылі дамоў кружным шляхам (Дон, волак, ракой, відавочна, Заходняй Дзвіной, у мора — мусіць, у Балтыйскае, потым у акіян і ў Міжземнае мора)".

Але ж праз сумненні, сутыкненні розных поглядаў і нараджаецца ісціна. Чаму ж адкідваць тое, што, магчыма, і нясе ў сабе толькі невялікую інфармацыю? С. Рассадзін не адкідвае, ён адзін вельмі ашчадна ставіцца да ўсяго. Бо ведае, наколькі мала звестак пра гэтыя перыяды ў нашай гісторыі, бо пераканаваны, што толькі пакрысе можна больш-менш поўна ўявіць сабе, як жылі нашы далёкія продкі. І калі антычныя аўтары кідалі на іх позірк хоць мімаходзь, значыць "лічыліся" з іх існаваннем: "Наша ж зямля лічылася ўсё ж часткай Айкумены (у перакладзе са старажытнагрэчаскай — абжытая частка суша. — **Я. З.**), хай сабе і крайняй, аддаленай. Антычныя гісторыкі напісалі першыя радкі ў шматтомным летапісе беларускай зямлі..."

Лепш зразумець, якой была яна, найстаражытнейшая Беларусь, дапамагае і багаты ілюстрацыйны матэрыял, змешчаны ў кнізе. Гэта — антычныя карты, прадметы, знойдзеныя археолагамі, а таксама "рэканструкцыя" пэўных момантаў жыцця нашых далёкіх-далёкіх продкаў, іх выявы.

Перафразіруючы вядомае выказванне, так і хочацца сказаць: "Нестар мне сябра, але ісціна даражэй..." і паўтарыць тое, што сказаў С. Рассадзін ва "Уступе": "Гэтая кніга — ці не першая больш-менш маштабная спроба асвятлення мінулага беларускай зямлі паводле антычных пісьмовых крыніц. Магчыма, аўтар не здолеў пазбегнуць хібаў, але, як гаварылі старажытныя рымляне, "хто зможа, няхай зробіць лепш". Спадзяёмся, што і ў такім выглядзе кніга выкліча пэўную цікавасць у чытачоў".

Хіба што не лішне дадаць: вялікую цікавасць!

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

## У ДАПАМОГУ НАСТАЎНІКАМ

Трылогія Якуба Коласа "На ростанях", як вядома, належыць да тых твораў народнага пісьменніка, з якімі знаёмяцца школьнікі. Наколькі глыбока імі будзе засвоены матэрыял, вядома ж, залежыць ад настаўнікаў, а тым, у сваю чаргу, не абысціся без метадычных парад і распрацовак. Добрую паслугу акажа ім дапаможнік В. Ляшук "Вывучэнне ў школе трылогіі Якуба Коласа "На ростанях", які пабачыў свет у выдавецтве "Ванін". Аўтар не проста выказвае свае меркаванні пра вядомы твор, а і спасылаецца на іншых даследчыкаў творчасці Я. Коласа, што таксама немалаважна, паколькі дазваляе лепш спасцігнуць сутнасць мастакоўскай задумы пісьменніка.

## ІМЯ ПІСЬМЕННІКА НЕ ЗАБЫТА

Помніцца, у дзяцінстве трапілася мне кніжка "Курылка". Мне параілі пачытаць яе ў бібліятэцы нашай Антонаўскай сямігодкі, што ў Чавускім раёне. Аповесць так захапіла мяне, што забыў і пра ўрокі. Ад імя вясковага хлапчука ў ёй расказвалася пра жыццё-быццё і нягоды, вучобу ў царкоўнапрыходскай школе са стаяннем на жарстве ў куце, з лупцоўкай лінейкай настаўнікам. Я чытаў тую кніжку раз, другі...

Тады я не ведаў, што аўтар аповесці Мікола Цэлеш — зямляк, з вёскі Заазер'е Бялыніцкага раёна. Калі ж даведаўся — захацеў з ім сустрэцца. Але да каго толькі ні звяртаўся, усе адно паціскалі плячыма. Маладзейшыя наогул пра яго не ведалі, не чулі. Урэшце, нехта сказаў, што лёс закінуў М. Цэлеша за мора-акіян, у Амерыку. Максім Танк сустракаўся там з ім.

Калі ў нашай абласной бібліятэцы рыхтаваўся даведнік пра больш і менш вядомых пісьменнікаў, якія нарадзіліся або працавалі на Магілёўшчыне, знайшлося там месца і для М. Цэлеша. Але даведнік той зроблены мізэрным накладам, ён дастаўся адно хіба раённым бібліятэкам.

І вось нядаўна бялыніцкая раённая газета "Зара над Друццю" зрабіла добрую справу — даволі грунтоўна расказала пра жыццё і творчасць М. Цэлеша. Дарэчы, там прыгадваецца, што ў Нью-Йорку выданы зборнік Міколы Цэлеша "Хмары над Бацькаўшчынай", у якім ёсць і тая самая, любімая мною ў маленстве, аповесць "Курылка".

То, можа, варта б і нашаму Саюзу пісьменнікаў, выдаўцам пазнаёміць сённяшніх чытачоў з творчасцю гэтага цудоўнага пісьменніка. Упэўнены, што аповесць "Курылка" была б падарункам і нашым дзецям, унукам.

**Іван АНОШКІН**

## "ПЕРШАЦВЕТ", N 12

На другую старонку вокладкі апошняга ў мінулым годзе нумара "Першацвету" вынесены словы Л. Гмырака: "Нацыянальна свядомыя беларусы цвёрда вераць у тое, што калі варункі палепшаюць — будзе можна весці шырэйшую работу, калі ўвесь беларускі народ даведаецца аб гэтым ды здолее падаць свой голас у гэтай справе, то ён зусім ясна і адкрыта стане на баку тых, якія "падалі голас" у абарону свайго народа. Тады справу беларускага нацыянальнага адраджэння возьме ён на свае магутныя плечы, і зусім не страшны ёй будуць усе патугі ворагаў ды іх нападкі". Змешчаны партрэт Л. Гмырака.

Проза прадстаўлена творамі К. Карабко, В. Хведара, В. Чупрыны, паэзія звязана з імёнамі Г. Кандрацэнкі, Н. Сінькевіч, В. Градзінар, В. Драздовай, А. Дуброўскага, М. Шапіленкі, І. Бялькевіч.

У "Гасцёўні" выступаюць: з вершамі П. Прыходзька, з п'есай- маналогам "Добрае стаўленне да сабакі" — В. Ткачоў.

Слова П. Пруднікава пра А. Пруднікава "Недапетая песня" і вершы гэтага паэта змешчаны ў раздзеле "Спадчына".

Багаты на матэрыялы раздзел "Крытыка". Публікуюцца артыкулы А. Скурко "З аднаго кораня" ("Параўнальная характарыстыка прынцыпаў класіфікацыі і выдання нацыянальных фальклорных зводаў"), Н. Вусавай "Люстэркі кніжнай культуры" ("Развіццё формаў малой графікі"). В. Жыбуль ("Быць праўдзівым — мой даўні дэвіз...") рэцэнзуе кнігу паэзіі П. Пруднікава "Пароша", Н. Дзівіна ("Душу пакіну я людзям...") разважае пра кнігу паэзіі Хв. Жычкі "Святога вечара чакаю".

Друкуюцца дзённікавы запіс Н. Чыкатковай "Пяць дзён у Празе", фальклорныя запісы К. Бруевай.

І чарговы раз прадстаўлена ў "Першацвеце" "кніга" — ёй стаў зборнік казак Н. Мяцельскай "Свая зорка".

ПАЭЗІЯ

Мікола КУПРЭЕЎ



### З паралеляў XX стагоддзя

*Калі я падняў сякеру,*
*ён вочы заплюшчыў,*
*шыяй чакаў на калодзе —*
*і я кінуў сякеру далёка,*
*выпусціў крылы з рукі,*
*адпусціў яго прэч...*
*Але ён не паверыў,*
*крыллем вольным не ўдарыў.*
*Тады я схапіў яго, кінуў*
*да курэй на падворак.*
*Ён жа мкнуў да сякеры,*
*стаў на яе лязо —*
*думу думае грэбенем залатым...*
*Я сеў на калоду і ўспомніў:*
*міма нашае хаты каля Рагачова*
*двое германцаў*
*вядуць у крывіцкі вечар*
*сотні сыноў і дачок Ізраіля...*
*Ідуць ціха, схіліўшы долу галовы.*

●

Ірыне БЯЛЬКЕВІЧ ахвярую

*Лодка доўга плыла.*
*Стамілася.*
*Стала яна на вёслы*
*і выйшла на бераг.*
*Вёслы ляжаць на траве пад вярбой,*
*лодка глядзіць на раку,*
*а рака ўсё цячэ...*
*І на рукі мне падаюць*
*кроплі з кармы...*

### Каля старога млына

*Сыходжу з дарогі.*
*Пад крыллем абвіслым, патрэсканым*
*разуваюся,*
*ступаю ў гарачы і мяккі,*
*нібы мука, пясок*
*і амаль патанаю ў ім.*
*За крылы ўхапіўся рукамі!*
*І крэкнула нешта ў млыне!*
*І крылле ўзмахнула,*
*мяне падняло над пяском*
*і зямлёю...*
*І расчапіў я рукі!..*

### 26 красавіка

●

*...Сінім агнём загарэўся кожны сучок на столі,*
*з бэлькі ўпаў павучок аслеплы,*
*вочы Хрыстос у куце заплюшчыў,*
*мышка дзірку шукала ў мосце —*
*не знайшла і схавалася ў качарэжніку,*
*і за акном імгненна галінка вішнёвая*
*расцвіла на імгненне...*
*Людзі былога балота —*
*дзед Васіль, баба Ганна —*
*маліліся Богу,*
*але ён іх не бачыў, не чуў...*

●

*Жанчына бегла на Славечна.*
*Я пазваў яе.*
*Азірнулася, рукою паказала*
*на нешта страшнае —*
*чырвона-жоўтае над Прыпяццю...*

*І бег я ўслед за ёю,*
*за Жанчынай, —*
*бо ў цёплым чэраве яе*
*цяплілася жыццё...*

### На дзедаўскім падворку

●

*Абапёрся, нарэшце,*
*на пахілены плот...*
*Яго ў сорак чацвёртым*
*сплёў дзед з алешніку...*

*"Здалёку, унучак?" —*
*крэкча плот.*
*"Здалёку", — шапчу.*
*"Што бачыў? Што чуў?" —*
*"Нічога не ўбачыў і не пачуў". —*
*"Дык чаму ж так доўга*
*блукаў па свеце?" —*
*"Зблытаў сцежкі.*
*доўга шукаў сваю —*
*да гэтага плоту..." —*
*"Пахіліўся мой плот.*
*Я зваліўся зусім..."*

●

*Калода,*
*сякерай пасечаная.*
*Сеў на яе і шукаю вачыма —*
*нічога з маленства:*
*ні жалезкі якой,*
*ні глінянай свістулькі,*
*ні счарнелае вокладкі*
*"Беларускіх народных казак"...*

*Тады я павярнуў калоду —*
*чарвякі,*
*тыя самыя, што і паўвека назад,*
*з чорнай зямлі паўзуць,*
*скручваюцца,*
*глядзяць мне ў вочы...*

●

*...А за падворкам*
*вясною ранняй ля ракі*
*цвіце лотаць,*
*і па яе халодным жоўтым цвеце*
*страшна так прайсціся басанож...*

### Пад дрэвамі

●

*На зямлю*
*дрэва ўпала вяршыняю з неба...*
*Дрэва зведала Божыя высі.*
*Я ж — толькі глядзеў у неба,*
*увесь патануўшы ў грахах на зямлі.*

●

*Шаптала жанчына пад яблыняй —*
*я ёй не верыў.*
*А заснула,*
*раскінуўшы рукі,*
*у травах пад яблыняй —*
*я ёй паверыў...*

●

*Лавіце*
*птушку з белымі крыламі —*
*не ведае, куды ляцець...*
*Толькі вы яе па галаве не біце —*
*ёй і так усё баліць...*

●

*Помню траву ля ракі,*
*алешыну, дым з твайго коміна,*
*спелую вішню з тваёй далані...*
*Але не помню самой рукі!*

*Працягні праз гады і туманы...*
*Можаш ёй пакараць мяне!..*

*Я злаўлю яе, паднясу да губ.*

●

*Юны паэт пад дрэвам.*
*Жанчына на дрэве.*
*Кідае шышку ў яго і рагоча*
*і даганяе па дрэвах вавёрку.*

●

*Сяджу на замшэлым пні і складаю*
*свой апошні санет...*
*Ламаюцца, падаюць дрэвы ў пушчы.*
*Адно з іх — сасна — павольна*
*падае на мяне,*
*прыпынілася —*
*зачапілася за суседа...*

*Паспець бы кончыць санет —*
*пакуль не ўпадзе*
*на чатырнаццаты мой радок.*

●

*З неба на зямлю ішоў вялікі дождж...*
*І пад дрэвам тым,*
*ля моста нашага расстання,*
*я не ведаў:*
*што ў тваіх вачах —*
*дождж ці слёзы?..*

*І калі над намі грымнула маланка,*
*я не ведаў:*
*што ў тваіх вачах —*
*святло маланкі ці агонь любові?..*

*І калі над намі сціхла ўсё,*
*я зразумеў:*
*то сціхла неба,*
*зямля пад намі сціхла*
*і сціхла ты...*
*І разышліся мы —*
*у іншыя даждждыы,*
*пад іншыя маланкі...*

ПРОЗА

ЧАС ПЕРШАЙ цаліны. У далёкі Казахстанскі стэп адбываюць з гарадоў эшалоны маладых і не вельмі маладых заваёўнікаў дзікіх неасвоеных мясцін. У паветры насіцца штосьці новае, незнаёмае. Нібы подых нязнанай раней свабоды. Смерць Сталіна, якую Несцяровіч перажываў так пакутліва, як здаецца, даволі хутка забываецца.

Набягаюць новыя падзеі. Дваццаты з'езд з дакладам Мікіты Хрушчова аб культе асобы Сталіна ўражвае, узрушвае Несцяровіча да глыбіні душы. Асабіста яго культ асобы не закрануў. Хіба толькі нашкодзіў атмасферай падазронасці. Іхнюю падпольную групу, баявую, з канкрэтнымі вынікамі, якія лёгка праверыць, да гэтага часу афіцыйна не прызналі.

Але ў памяці ўсё ўсплыло: трыццаць сёмы год, калі з іхняга канца вуліцы бясследна знікла чатыры ці пяць чалавек, арышты чыгуначнікаў, пераважна палякаў, якія прыехалі на станцыю яшчэ ў першую вайну пасля заняцця немцамі Баранавіч, бессэнсоўнае раскулачванне, калі непісьменнага, заскарузлага Пятра Сколіча, які хадзіў у дзіравых шарачковых партках, свяціў праз дзіркі задам, затое быў страшэнна працавіты і ў запасе меў некалькі высокіх дубовых бочак збожжа, разам з жонкай і глухой сястрой пасадзілі ў вагон і завезлі невядома куды.

У паветры запахла свабодай. Хоць яна не спяшалася паўсюдна запанаваць. Але ўжо такім, як Кульбацкая, разгарнення не было.

Доўга насіў Несцяровіч боль, узрушанасць, трывогу ад таго, што пачуў пра Сталіна. Гадоў сем. Да дваццаць другога з'езда. Потым як бы пачаў разумець, што справа не ў адным Сталіне.

Нейкую ролю ў яго прасвятленні адыграў Ямпольскі, з якім Несцяровіч гады два-тры жыў у інтэрнацкім пакоі. Ямпольскі якраз на асуджэнні культу асобы ціпер рабіў кар'еру. Выкладчыка з яго не атрымалася: перайшоў у акадэмічны інстытут. Сыпаў артыкуламі ў газетах, нават у "тоўстых" часопісах, пра якія Несцяровіч нават не марыў. Граміў пісьменнікаў за ідэалізацыю жыцця, лакіроўку, заклікаў рашуча выяўляць супярэчнасці.

Тым часам Несцяровіч ведаў ранейшыя намеры Ямпольскага. Аднойчы ў таго вырвалася: "Буду змагацца за чысціню партыйнай лініі ў літаратуры". Ідэямі змагання была прасякнута кандыдацкая дысертацыя Ямпольскага. Ён шчыра паверыў, што такія пісьменнікі, як Язэп Пушча, Уладзімір Дубоўка, Адам Бабарэка, былі ворагамі Савецкай улады, скрывілі партыйную лінію ў літаратуры. Прозвішчы іх ён пісаў з малой літары.

Але вось арыштаваных пісьменнікаў пачалі рэабілітоўваць. З далёкай высылкі вярнуліся Пушча і Дубоўка.

Ямпольскі між тым рыхтуе дысертацыю да выдання. З незвычайнай лёгкасцю ён мяняе мінус на плюс. Ціпер учарашнія ворагі ў яганай кнізе паўстаюць як героі, барацьбіты-пакутнікі. І зусім не трывожыць Ямпольскага, што ў дысертацыі інакш пра іх напісана, што калі хто захоча, можа прачытаць гэтую дысертацыю.

Несцяровіч не захапіўся аповесцю, якую напісаў таварыш, і з-за гэтага яганая дружба з Ямпольскім пайшла на спад. Тым часам дзякуючы Ямпольскаму зразумеў, мае ўласны матэрыял, можа нават багацейшы, чым Ямпольскі. Бо быў у сапраўдным падполлі, у партызанах, апошнія два гады — на фронце.

На першым часе Ямпольскі яшчэ завітвае ў інтэрнат, дзе асталяваўся Несцяровіч з Галяй. Але ў далейшым прыходзіць радзей і радзей.

Несцяровіч, вядома, зрабіў памылку. Не трэба было хаіць аповесць таварыша. Другія пісьменнікі, якія яе чыталі, зрабілі інакш. Нешта пахвалілі, нешта трохі крытыкнулі. Бо самалюбівы народ пісьменнікі. Ямпольскі не выключэнне.

Несцяровіч атрымаў па заслугах. Нідзе, ніколі не мільганула ў крытычных аглядах Ямпольскага прозвішча нядаўняга друга. Як бы не жылі разам, не спрачаліся, не сядзелі ў застоллях. Вось так. Вучыся, браце, жыць.

Добра Несцяровічу з Галінай. Лепшай жонкі не трэба. Яна, намеснік дырэктара буйнога магазіна, устае на золку, калі студэнты яшчэ спяць. На агульнай кухні гатуе сняданні, абеды. І гатаваць умее.

Магла б лепш апранацца жонка кандыдата навук, а ў хуткім часе і дацэнта. А яна ходзіць у адной і той жа зялёнай сукенцы, якую, відаць, пашыла яшчэ ў студэнцкія гады. І туфлі не надта выдатныя ў яе. Са стаптанымі абцасамі.

Іван НАВУМЕНКА

# ВЯСНА ПЕРШАЙ ЦАЛІНЫ



***У другім нумары часопіса "Полымя" за гэты год друкуецца мая невялікая аповесць "Вір". Прапаную чытачам "Літаратуры і мастацтва" ўрывак з гэтай аповесці.***

**АЎТАР**

Несцяровіч начамі піша. За адно толькі лаецца Галя: курыць папяросу за папяросай, і ў маленькім пакоіку столькі дыму, што немагчыма спаць. Аляксандр Іванавіч расчыняе дзверы: пакой бакавы і ніхто ў гэтую частку калідора не завітвае.

Мінаюць харошыя маладыя гады. Выходзяць кнігі: адна, другая, трэцяя. Нават нейкае імя ўжо мае Несцяровіч. І вось нарэшце раман. Паабяцаў аўтар часопісу апавяданне. Два разы прыязджае сюды, у сосны, і ніяк яго не можа закончыць.

Цяпер ужо гутарка ідзе пра аповесць. Але і аповесць не можа змясціць матэрыялу, які сядзіць у душы і патрабуе выйсця. Несцяровіч піша пра сваё юнацтва, горкае, абпаленае вайной, але незабыўнае і дарагое. Яны, местачковыя хлопцы, учарашнія школьнікі стварылі баявую групу. Самі без ніякай прынукі. Не толькі слухалі радыё, друкавалі лістоўкі, а і зброю збіралі, чынілі сякія-такія дыверсіі. А галоўнае: агромністая трывога за радзіму, яе лёс панавала ў душах, дыктавала ўчынкі, прымушала забыць пра ўсё астатняе.

Не ў кожнага пакалення бывае такі зорны час. А вось на долю гэтага выпаў. І трэба быць вартымі гэтага вялікага часу, не хаваць галаву, як страус, у пясок.

Тут Несцяровічу якраз і памог Ямпольскі. Бо і ён пісаў пра акупацыю. Раней, седзячы над апавяданнямі, малады творца нават не думаў, што з матэрыялу, якім валодае, можа атрымацца раман. І ў архівы раманіст не заглядваў. Хапіла таго, што ён добра ведаў сам.

Раман убачыў свет хутка. Выйшаў асобнай кнігай адразу пасля надрукавання ў часопісе.

Старэйшыя пісьменнікі, адзначаючы юбілеі, сталі запрашаць Несцяровіча. Разам з Галяй. Нейкім чынам гэта было прызнаннем ягоных творчых магчымасцей.

Доўга, пакутліва ішла барацьба за кватэру. Бо Галя цяжарная. Яны маглі ўжо мець дзяцей, але то адчайна сварыліся, не ведаючы ці сыдуцца, пажэняцца, а то проста не было дзе жыць. У інтэрнаце дзіцячыя майткі не сушаць. Дый не хацеў Несцяровіч жаніцца з прычыны таго, што дама сэрца цяжарная. Адзін раз такое высакародства ён праявіў. А цяпер толкам не ведае нават, ці з'яўляецца бацькам сыну, на ўтрыманне якога вылічваюць ледзь не палавіну заработку. Яго першая каханая, як здаецца Несцяровічу, таксама не ведае гэтага, бо пырхала з кветкі на кветку, нібыта не здагадваючыся, што ад такіх залётаў-пералётаў бываюць дзеці.

Несцяровічу прыйшлося прысутнічаць на невялікім баляванні, якое арганізавалі работнікі ГУМа. У зальчыку-бакоўцы магазіна, дзе, відаць, праводзіліся нарады, сабралася народу няшмат: не больш дваццаці ці трыццаці чалавек. Толькі загадчыкі аддзелаў і іншае начальства.

Прычыны балявання Несцяровіч не ведае. Нарэшце высветлілася: гасцей сабрала адна з намесніц дырэктара — паўнацелая, з нафарбаванымі, узбітымі як стог валасамі, напарфумленая да немагчымасці матрона гадоў пад сорак. Яе жаніх, даволі відны круглатвары бландзін з бакенамі, вусікамі і прыкметнай праплешынай у радкаватых валасах, таксама даўно развітаўся з часам квітнеючай маладосці.

Галя ў гэтай кампаніі зусім не глядзіцца. Яна і тут бойкая, жывая, сыпле жартамі, у той час як астатняя публіка па-чыноўніцку строгая, маўклівая, выказвае панылыя, аднастайныя тосты. Госці сядзяць, нібы аршын праглынуўшы.

"Што яднае двух гэтых людзей?" — думае Несцяровіч, гледзячы на жаніха, банкаўскага работніка, чымсьці падобнага на сытага, лянівага ката і на нявесту, якая, як яму падаецца, усё зведала, перапрабвала, перасмакавала і выходзіць замуж дзеля таго толькі, што ў яе гады заставацца незамужняй не прэстыжна.

Між іншым ён не вытрымлівае і, паколькі нявеста сядзіць блізка ад яго, задае ёй не зусім далікатнае пытанне.

— Што, калі муж акажацца раўнівы? Вы на рабоце да ночы. Раптам хто-небудзь захоча вас правесці?

— Ну, і што? Няўжо муж думае: пастаўлю яго фотакартку, стану на калені і буду на яе маліцца?..

Несцяровіч адчувае: немаладыя муж і жонка будуць жыць так, як жылі дагэтуль. Як хто хоча. Шлюб для бачнасці...

Між тым у кампаніі сядзяць два дацэнты і нават адзін прафесар. Эліта гандлёвая як бы зліваецца з элітай навуковай. Несцяровіч ведае: дырэктар магазіна мэблі піша дысертацыю. Яго работай кіруе доктар навук. Сумнення няма: атрымае вучоную ступень дырэктар магазіна — мадэрная мэбля цяпер у цане.

Несцяровіч даўно выношвае думку: трэба як хутчэй вырваць Галю з асяроддзя хціўцаў і гандляроў.

Цяпер у Несцяровіча два малайцы, якія бадзёра выдыбаюць па даволі прасторнай плошчы яго двухпакаёўкі. З першым хлопцам ледзь не тры гады малады дацэнт і трохі вядомы пісьменнік пражыў у "вагоне з тамбурам" — так ён называў кватэру-палутарку, якую яму выдзелілі пасля інтэрната.

Цяперашняя кватэра ніштаватая, але вельмі шумная, бо вокнамі выходзіць на праспект. Гэты шум трохі сціхае пасля поўначы, а на золку ўсчынаецца зноў.

Трэба думаць пра лепшую кватэру. Тым больш, што будзе яшчэ адно дзіця. Але як яе здабыць?

Несцяровіч не памыліўся, ажаніўшыся з Галяй. Гаспадарку яна цалкам бярэ на сябе. Ноччу ўстае да дзяцей, даючы яму магчымасць выспацца.

Новай кватэры яны яшчэ не атрымлівалі. "Вагон з тамбурам" і цяперашняя былі запушчаныя ўшчэнт. Іх ранейшыя гаспадары не паклапаціліся нават, каб хоць смецце вынесці. Усё рабіла Галя.

Так яны жылі. Яшчэ ў інтэрнацкі пакоік валам валілі Несцяровічавы землякі. Гэта былі пераважна раённыя службоўцы, што прабіліся ў партыйную школу.

Выйшаўшы з інтэрната, пасяліўшыся на першай кватэры, у "вагоне з тамбурам", Несцяровіч з Галяй наладзілі, можна сказаць, княжацкае застолле. У два прыёмы. За адзін дзень усіх гасцей прыняць не маглі: не дазваляла плошча. Два вечары і ночы гудзела невялікая кватэрка ўзбуджанымі галасамі, песнямі.

Пачастунак гатавала таксама Галя. Несцяровічу яна не дазваляла нават посуд мыць.

Праз тыдзень рэдакцыйны фатограф Аляксандр Мендэль атрымлівае кватэру. Несцяровічаў, у якіх выдыбаў і галёкаў аж два дні, на сваё наваселле не запрашае.

Ланцужок няўдзячнасці цягнецца далей. Толькі невялікая частка гасцей, пераважна выкладчыкаў універсітэта, адплацілі ўзаемнасцю. Пазвалі Несцяровіча і Галю да сябе.

З землякамі Аляксандра Іванавіча нагул атрымалася смешна. Калі Галя з мужам прыехалі ў мястэчка, да бацькоў Несцяровіча, то адзін з найбольш частых наведвальнікаў іхняй кватэры, убачыўшы іх на станцыі, кінуўся наўцёкі. Зрабіў выгляд, што іх не ўбачыў. Астатнія аказаліся больш высакароднымі. Да сябе, аднак, не паклікалі. Са сваёй паўлітрай прыйшлі да бацькоў Несцяровіча. На гатовую, так сказаць, закуску.

Пасля нараджэння трэцяга дзіцяці, дзяўчынкі, Несцяровіч нарэшце дамогся, што Галя пакінула ГУМ. Але заставацца без работы яна не хацела. Федзя Чашчавік, які да таго часу стаў дэканам у наргасе, прыняў яе на выкладчыцкую работу. Галя ўзялася здаваць экзамены кандыдацкага мінімуму. Ёй нават тэму дысертацыі зацвердзілі.

Яна гарэла энергіяй, бадзёрасцю. Жыла, радуючыся жыццю. Даглядаць дзяцей узялася адна з родных цётак Галі, кволенькая, ціхая, ветлівая. Дзеці яе любілі і яна з імі добра ладзіла.

Аляксандра Іванавіча жонка аж залішне шанавала. Калі ён, стомлены, прыходзіў з лекцый (здаралася па чатыры і нават па шэсць гадзін на дзень), яго чакаў не толькі добры абед, але і чарка гарэлкі. Паўлітэрак Галя не купляла — чацвяртушкі. Бутэлечкі хапала на тры дні.

●

Тым часам вынікае непрыемная справа ў "Юнацкім свеце". Рэдактар Гулікоўскі напісаў аповесць "Краснасельцы". Несцяровіч да таго часу стаў рэдактарам аддзела прозы. Вядома, не ён вырашаў пытанне пра друкаванне таго ці іншага твора. Выносіў толькі прапанову.

Прачытаўшы "Краснасельцаў", ён адчуў трывогу і, не тоячыся, выказаў яе галоўнаму рэдактару. Астатнія супрацоўнікі таксама занепакоіліся. Аповесць для "Юнацкага свету" (да таго часу ён стаў "тоўстым часопісам") была небяспечная. У ёй аўтар намаляваў сапраўднага самадура, які кіраваў калгасам, і вельмі нярадаснае жыццё калгаснікаў.

Рэдакцыя думала, гадала, што рабіць. Змякчаць факты — сапсаваць твор. Параілі аўтару напісаць прадмову, у якой дэпутат Вярхоўнага Савета пачынаў размову, завяршаючы яе тым, што вінаватыя зняты з работы і нават аддадзены пад суд.

Але і "дэпутат" не дапамог.

Работнікаў ЦК камсамола, якія таксама кіравалі часопісам (ён быў і органам Саюза пісьменнікаў), Гулікоўскі называў мяшчанамі. І вось гэтыя "мяшчане" заварушыліся, як мурашкі. Асудзілі аповесць на сваім бюро і перадалі на бюро ЦК партыі.

Тым часам аповесць перадрукаваў зарубежны часопіс. Лёс Гулікоўскага быў вырашыны: зняць з пасады.

Несцяровіч сам звольніўся з рэдакцыі: пабольшала спраў ва універсітэце. Ды і для пісання трэба час.

Увогуле цяжкае жыццё выкладчыка. Цяжка не лекцыі чытаць. Калі добра падрыхтуешся, асвоіш матэрыял, то стаяць за кафедрай прыемна. Бачыш перад сабой удзячныя твары студэнтаў і выходзіш з аўдыторыі з пачуццём выкананага абавязку. І яшчэ з пачуццём свабоды. Няхай сабе да наступнай лекцыі, якая будзе паслязаўтра ці нават заўтра.

І ўсё адно: чытанне лекцый — як прыгон. Выкладчык звязаны імі па руках і нагах. Бо калі лекцыя заўтра, то прыйшоўшы дамоў, паабедаўшы, пачынаеш пра яе думаць. І так месяц за месяцам, год за годам.

Гэта нібы ланцугі на нагах.

І вось благаслаўлёная часіна. Канікулы ці вось такія, як цяпер фортачкі, у час экзаменацыйных сесій. Гэта для таго, хто хоча пісаць, як божае благаславенне. Вырывайся ў лес і пішы. Можна гадзіну, нават дзве пахадзіць па лесе, паразмаўляць з другімі творцамі, адцягваючы час, калі трэба садзіцца за стол.

Аляксандр Іванавіч і дамоў звоніць. Бывае па два разы на дзень. Відаць, гэта таксама падсвядомае адцягненне часу. Бо пісанне — пакута. Самая цяжкая работа, якая ёсць на свеце. Вядома, здараюцца выпадкі, калі пішацца лёгка, натхнёна. За адну ноч можа нарадзіцца апавяданне. Але такія ўдалыя ўзлёты духу бываюць рэдка. Галоўнае — праца. Сядзі, прымушай сябе жыць у часе, пра які пішаш, улазь у скуру герояў, у іхнія душы, выяўляй іх імкненні, жаданні. Пісьменнік — той жа артыст. Але своеасаблівы. Бо нават у невялікім апавяданні вымушаны іграць некалькі роляў. І не так проста даецца слова. Калі садзішся за стол, ёсць толькі агульнае адчуванне таго, пра што трэба пісаць. Ніякага плана няма. Калі і ёсць, то ён заўсёды паломіцца.

Нават газетныя нарысы Несцяровіч пісаў пакутліва. Паедзеш куды-небудзь, пагутарыш з многімі людзьмі, насабіраеш процьму фактаў.

Што рабіць з гэтымі фактамі? Творчы працэс пачынаецца як бы па-за межамі свядомасці. Магчыма, у патаемных глыбінях душы нараджаецца патрэбная музыка, вымалёўваецца галоўная ніць апавядання. Так, так: пісанне пачынаецца з настрою, з музыкі. Яна — галоўнае. Але як пакутліва, марудна яна нараджаецца.

Несцяровіч нават у натхнёныя часы пісання выдыхаецца за тры-чатыры гадзіны. Ён пасля ўпартага і тым больш удалага пісання нібы выціснуты лімон. Ён стомлены, шчаслівы і пусты.

Іншы раз Галя напісанае хваліць або ганіць. Галоўнае: дае яму магчымасць пісаць, беручы бытавы клопат на сябе. З вядомых слоў паэта: "Не продается вдохновенье, но можно рукопись продать", яна найлепей разумее апошнія словы. Хоць сама, перайшоўшы на выкладчыцкую работу, чытае лекцыі — па ўсім відаць, добра. І ведае, што такое натхненне, бо сама трохі артыстка і ў нудны курс нейкага там бухгалтарскага ўліку здольна ўнесці элемент цікавасці і займальнасці. Студэнты наргаса хваляць яе лекцыі.

Несцяровіч не толькі пісьменнік. Ён літаратуразнавец, выкладчык і часам ловіць сябе на думцы, што сучаснае літаратуразнаўства мае вялікі хіб. Яно пераважна цікавіцца тым, што стварыў пісьменнік, тэмамі і праблемамі, стылем, але зусім абмінае асабістае жыццё творцы. Вядома: калі гутарка заходзіць пра Пушкіна альбо Льва Талстога тут нават акалічнасці асабістага жыцця вялікіх мастакоў навідавоку. Але не толькі Талстым і Пушкіным створана літаратура. За ёй сотні "добрых і розных пісьменнікаў", пра якіх, апрача іхніх твораў, шырокі чытач ведае вельмі мала.

Ды й беларуская літаратура ў асаблівым становішчы. Яна нібы другарадная. У Мінску ніхто, апрача пісьменнікаў ды невялікай кучкі закаранелых беларусаў-настаўнікаў, па-беларуску не гаворыць. У школе нават беларускую літаратуру пачынаюць выкладаць па-руску.

Чаму так? Недаспелая, не сфармаваная цалкам нацыя? І гэта ёсць. Несцяровіч памятае: ягонаму бацьку, стрэлачніку, было ўсё роўна: беларус ён ці не беларус. Размаўляў на "трасянцы", якая ў аснове сваёй была беларускай гаворкай і цвёрда лічыў, што беларуская мова непатрэбна. Маўляў, і руская зразумелая. Дык навошта выдумляць яшчэ нешта?

...Дзве вялікія славянскія дзяржавы сціскалі Беларусь з двух бакоў, не жадаючы прызнаваць яе самастойнасць. Вядома, драгавічы, крывічы, радзімічы, што склалі ў далейшым хрыбетнік беларускай нацыі — усходнія славяне. Яны бліжэй да рускіх, украінцаў, чым да палякаў і чэхаў. Але стагоддзі самастойнага існавання нарадзілі своеасаблівы народны дух, норавы, мову, няхай сабе блізкую да рускай ці ўкраінскай, але ў корані самабытную сваёй музыкай, поглядам беларуса на свет, яго філасофіяй. Так, так, усё гэта ёсць у мове. Бракавала сялянскай беларускай нацыі толькі ўласнай інтэлігенцыі. Але рускія дваране, гэтак жа як эліта другіх краін, таксама пагарджалі роднай мовай. Другая справа: лепшыя людзі з пануючага класа павярнуліся да родных каранёў яшчэ два-тры стагоддзі назад.

Несцяровіч адчувае: у глыбіні душы ягоная Галіна таксама не дужа цэніць занятак мужа. Па той жа прычыне, што і астатнія. Хоць, з другога боку, жанчына — тайна. Нават некаторыя жонкі геніяльных людзей адстойвалі ўласную самастойнасць, незалежнасць. Можа, таму, што адчувалі: жыццё даецца адзін раз і пражыць яго трэба так, як патрабуе душа.

# IX КРЭДА — ПРАНІКНЁНАСЦЬ І ДУХОЎНАСЦЬ

**Выстава, што адкрылася 4 снежня 1996 года ў Палацы мастацтваў, прадставіла двух жывапісцаў, выпускнікоў Беларускай акадэміі мастацтваў — заслужанага дзеяча мастацтваў Барыса Аракчэева і Ігара Уласава.**

**70 гадоў споўнілася Барысу Уладзіміравічу Аракчэеву, з гэтай нагоды і разгорнута выстава яго жывапісных работ, якія прадэманстравалі поспехі мастака ў розныя этапы творчасці. Гістарычнае, філасофскае мысленне Б. Аракчэева, глыбіня духоўнасці, чысціня маральных прынцыпаў складаюць аснову яго агульнай культуры. Грамадзянская пазіцыя мастака спалучаецца з яго чалавечай пранікнёнасцю і чуласцю, глыбокай гуманнасцю і дае тую сілу праўды, тую моц мастацкага аналізу, якія так выразна і пераканаўча выяўляюцца ў яго лепшых творах (“Этапы вялікага шляху” (1959), “Час сенакосны” (1971), “Хлеб” (1969), “Брэсцкая крэпасць” (1971), “Сакавік” (1964), “У родным краі” (1975), “Заслаўе ў восеньскім убранні” (1980), “Нацюрморт з лубінам” (1984), “З думаю пра родны край” (1991), “Музей М. Багдановіча ў Яраслаўлі” (1991), “Над возерам” (1992), “Гродзенскія гусары. Атака ў Клясціцах” (1994) і шмат іншых).**

**Б. Аракчэеў паспяхова сумяшчае творчую працу з навуковай і педагагічнай. З 1964 года працаваў выкладчыкам малюнка, жывапісу і кампазіцыі ў Мінскім мастацкім вучылішчы імя А. Глебава, з 1971 года па 1996 выкладаў на кафедры жывапісу Беларускай акадэміі мастацтваў, быў дацэнтам, вёў старэйшыя курсы па жывапісе і кампазіцыі, падрыхтаваў і выпусціў дзесяткі дыпломнікаў. Ён ахвотна дзеліцца з моладдзю сваімі ведамі, майстэрствам. Мастак пастаянна ў пошуку, патрабавальны да сябе, працягвае і паглыбляе лепшыя рэалістычныя традыцыі беларускага мастацтва.**

**Цікава і нечакана выглядае на выставе і Ігар Уласаў, мастак сярэдняга пакалення, які ў Мінскім мастацкім вучылішчы выкладае малюнак, жывапіс, кампазіцыю. Майстэрства яго як мастака знаходзіць сваё адлюстраванне ў станковым жывапісе, малюнках пастэллю, алоўкам і непарыўна звязана з традыцыямі класічнага мастацтва, у якіх сцвярджаюцца адвечныя каштоўнасці: “Дзяўчынка ў белым” (1974), “Раніца” (1976), “Эцюд” (1986), “Летні пейзаж” (1987), “Майстэрня” (1988), “Яблыні цвітуць” (1996), “Пейзаж” (1995), “Аўтапартрэт” (1974), “Жаночы партрэт” (1982) і шмат інш. Сустрэча з творчасцю І. Уласава прынясе не толькі эстэтычную задаволенасць, але і ўзбагаціць духоўна.**

**Г. ФАТЫХАВА**

# “МАТЧЫН РУЧНІК”

**— так называецца выстава, падрыхтаваная Мінскім абласным цэнтрам народнай творчасці, якая адкрылася ў выставачнай зале бібліятэкі імя А. Пушкіна.**



**Спрадвеку на Беларусі вялікае значэнне надавалася ручнікам у розных абрадах і рытуалах. На ручнік клалі нованароджанага, яго шырока выкарыстоўвалі ў вясельным абрадзе, не абыходзіліся без яго на пахаванні і памінках. Вышытымі ручнікамі ўпрыгожвалі абразы, фотаздымкі блізкіх людзей, іх павязвалі на прыдарожныя крыжы. А здаралася ў вёсцы эпідэмія, падзеж жывёлы, засуха — усе разам на працягу дня ткалі спецыяльны ручнік, які абносілі вакол сяла, праганялі пад ім хатніх жывёл.**

**Многія з гэтых традыцый і цяпер жывуць у некаторых рэгіёнах. Па ініцыятыве Інстытута праблем культуры ў рэспубліцы ажыццяўляецца праграма вывучэння народных традыцый і адраджэння аднаго з самых значных элементаў культуры — ручніка. І першы крок да гэтага — экспазіцыя “Матчын ручнік”.**

**Яўген КАЗЮЛЯ, БЕЛТА**

ВІНШУЕМ!

# ГАЛІНЕ ВАСІЛЕЎСКАЙ — 70

Галіна Ануфрыеўна нарадзілася ў гарадскім пасёлку Клічаў, на Магілёўшчыне, 15 студзеня 1927 года, але з 1932 года жыве ў Мінску. У 1945 годзе экстэрнам здала экзамены за дзесяцігодку, а ў 1950-ым — скончыла Беларускі дзяржаўны універсітэт, набыла прафесію журналіста. Працавала на радыё, была супрацоўнікам часопіса “Сельская гаспадарка Беларусі”, рэдактарам аддзела часопіса “Работніца і сялянка”. З 1977-га года — у рэдакцыі часопіса “Полымя”: рэдактар аддзела нарыса, адказны сакратар. У 1982—1988 гадах з’яўлялася дырэктарам Бюро прапаганды мастацкай літаратуры СП БССР.

Літаратурную працу Г. Васілеўская пачала ў 1953 годзе, выступала з нарысамі, артыкуламі, а ў 1959 годзе апублікавала сваё першае апавяданне. Выдала шэраг кніг, адрасаваных у першую чаргу дзецям і юнацтву — “Маланка ўначы”, “Малюнак на снезе”, “Я еду на вярблюдзе”, “Бывай, Грушаўка”, “Юныя назаўсёды”, “Крылы, або Адзін год з жыцця Віталя Пятроўскага”... Для твораў Г. Васілеўскай характэрна добрае веданне жыцця, глыбокае разуменне псіхалогіі юнага чытача, яго запатрабаванняў. Яна з аднолькавым поспехам піша як пра падзеі Вялікай Айчыннай вайны так і пра нашу сучаснасць.

З днём нараджэння, шаноўная Галіна



Ануфрыеўна! Пастаяннай маладосці, Вам, бадзёрасці, новых твораў!

# “НАМ ЗАСТАЛАСЯ СПАДЧЫНА”

Як будуецца дом? Бярвенца да бярвенца, цаглінка да цаглінкі... З такой жа рупнасцю “будавалася” і гэта незвычайная кніга — “Нам засталася спадчына”. Нарыс да нарыса, верш да верша, малюнак да малюнка... Творы гэтага своеасаблівага падручніка па гісторыі роднай Беларусі друкаваліся на старонках “Вясёлкі” пад рубрыкай “Наша спадчына”.

Нарадзілася новая кніга для дзяцей. Чым адметная яна, чым прывабная і цікавая? Коратка не адкажаш. Трэба прачытаць усе тры раздзелы яе: “З Богам у сэрцы”, “Постаці”, “Дзе мы жывём”.

Пачынаецца кніга нарысам Сяргея Тарасава “Адкуль пайшлі беларусы”. Пра гэта існуе паэтычнае паданне: “Жыў на свеце чалавек па прозвішчы Бай. Была ў яго вялікая сям’я. Надышоў час Баю паміраць. Сабраў ён сваіх сыноў і падзяліў між імі маёмасць. Толькі аднаго сына запамятаваў, бо той якраз быў на паляванні са сваімі любімымі сабакамі. Звалі сына Белаполем.

Пасля смерці бацькі вярнуўся Белаполь з палявання. Браты яму і кажуць: “Бацька аддаў нам усю маёмасць, а табе пакінуў сабак ды наказаў, каб ты пусціў іх на волю. Аднаго — у правы бок, другога — у левы. Колькі зямлі аббягуць за дзень, столькі і будзе тваёй”.

Пайшоў Белаполь і злавіў дзвюх птушак: адну, што прыляцела з паўднёвага мора, а другую — з мора паўночнага. Выпусціў птушак у розныя бакі, а наўздагон пусціў сабак. Тыя з такім імпэтам кінуліся за птушкамі, што аж пыл закурэў. І па сённяшні дзень іх няма. А па іх слядах дзве рэчкі пацяклі: у адзін бок — Дзвіна, у другі — Дняпро. На гэтых абшарах Белаполь і пасяліўся. Ад розных жонак у Белаполя пайшлі розныя плямёны пад найменнем беларусы. Яны і дагэтуль тут жывуць, зямельку аруць ды жыта сеюць”.

У кожным паданні ёсць зярнятка праўды. Можа, так яно і было? Бо жывём мы на прыгожай ды багатай зямлі, дзе шмат рэк, азёр і пушчаў, дзе працавітыя, добрыя і мужныя людзі, дзе шануюцца святы, даўнія народныя традыцыі. Беларусы спрадвеку святкуюць Каляды, Дзяды, Вялікдзень, Купалле. Пасля знаёмства з кнігай “Нам засталася спадчына” вы ўбачыце ў гэтых святах шмат новага, дзівоснага і патаемнага.

Кніга, як ужо згадвалася, адрасавана дзецям. Ці ведаюць яны, каго называлі князёўнай з трыма імёнамі? Хто такія Усяслаў Чарадзей, Ефрасіння Полацкая, Кірыла Тураўскі, Францішак Скарына, Мікола Гусоўскі, Сімяон Полацкі, Сымон Будны, Язэп Лёсік? Чым праславіліся князь Вячка, Леў Сапега, Васіль Вашчыла, Паўлюк Багрым, Ігнат Буйніцкі, Браніслаў Тарашкевіч, Рыгор Шырма? Якія словы гучалі паролем для паўстанцаў Кастуся Каліноўскага? Які запавет пакінуў нам паэт Францішак Багушэвіч? Хто падпісваў свае творы псеўданімам Максім Беларус? Адказ на ўсё гэта — таксама ў кнізе, у раздзеле “Постаці”.

Шмат цікавага, пазнавальнага знойдуць чытачы і ў трэцім раздзеле, дзе расказваецца, як узніклі на нашай зямлі старажытныя гарады Мінск, Полацк, Тураў, Бярэсце, Гародня, Наваградак, Рагачоў, Ліда, розныя паселішчы, адкуль узялі яны свае назвы, чым багатыя і знакамітыя, што за людзі жылі і жывуць у іх.

І яшчэ адна каштоўная адметнасць кнігі: усе нарысы кароткія, сціслыя, але багатыя на фактычны матэрыял, напісаны зразумелай, сапраўды “дзіцячай” мовай. Змястоўнасць і мастацкую вартасць гэтай кнігі можна вызначыць нават па імёнах аўтараў. Гэта — сапраўднае сузор’е нашых пісьменнікаў, старэйшых і маладзейшых, добра дасведчаных у гісторыі роднага краю: Васіль Вітка, Леанід Дайнека, Уладзімір Арлоў, Яраслаў Пархута, Вольга Іпатава, Кастусь Тарасаў, Сяргей Тарасаў, Уладзімір Ягоўдзік, Уладзімір Юрэвіч, Уладзімір Ліпскі, Арсень Ліс, Мікола Маляўка, Казімір Камейша, Уладзімір Дзюба, Мікола Дзелянкоўскі, Антаніна Хатэнка, а таксама мастак Аляксей Марачкін, журналіст Васіль Кошаль, бібліятэчны работнік Ніна Пінчук.

Празаічную аснову кнігі вельмі ўдала, на маю думку, дапаўняе паэтычны летапіс — вершы народных паэтаў Беларусі Пімена Панчанкі і Ніла Гілевіча, а таксама Васіля Віткі, Уладзіміра Караткевіча, Петруся Макаля, Артура Вольскага, Юрася Свіркі, Яўгеніі Янішчыц, Міколы Маляўкі, Віктара Гардзея, Марыі Шаўчонак, Галіны Каржанеўскай, Міколы Пракаповіча.

Можа, крышку сумна і надакучліва-аднастайна чытаць гэты пералік імёнаў, але ж — без іх, аўтараў, напэўна, не атрымалася б такой цікавай кнігі.

Кніга шчодра аздоблена партрэтамі, малюнкамі. За гэта дзякуй мастацкаму рэдактару “Вясёлкі” Яўгену Ларчанку. Удзячныя павінны быць чытачы і выдавецкай фірме “Красіка-Прынт”, яе дырэктару Анатолю Кумачову. Гэта яны пастараліся, каб кніга ўбачыла свет.

Я ўпэўнены, кніга “Нам засталася спадчына” спадабаецца не толькі дзецям, але і іх бацькам, асабліва настаўнікам. Бо гісторыя роднай Беларусі аднолькава цікавая для ўсіх.

**Мікола ЧАРНЯЎСКІ**

# ЖЫТА І ВАСІЛЁК

*(Працяг. Пачатак на стар. 5)*

Мы зноў апынаемся там, дзе ўжо некалі былі, — каля жытнёвага палетка, зноў бачым у атачэнні жытнёвых каласоў васілёк, чуем жнеяў і музыку, сустракаемся з апосталамі і з Ісусам Хрыстом, нам нанава адкрываецца свет працы і прыгажосці, свет, дзе добра быць коласам і шчасна быць васільком, але на гэты раз у ім нешта істотна ўдакладніцца: Хрыстос не будзе ўжо не пазнаны людзьмі і яго сляды не будуць ужо затаптаны (мусяць жа ўрэшце засвойвацца ўрокі гісторыі!). І гэты трэці, заключны, раздзел ўжо не будзе а п о к р ы ф а м, а — к а н о н а м.

Як бачым, краса ў “Апокрыфе” займае ўсе планы; у ёй сустракаюцца і з’ядноўваюцца ўсе пачаткі — цялесны, душэўны і духоўны; яны з’ядноўваюцца ў красе настолькі цэласна і непарыўна, што іх нельга разасобіць. Паспрабуйце гэта зрабіць — не ўдасца, бо цела — яно ўжо і душа, а душа — яна ўжо і дух.

Краса — новы стан самой рэчаіснасці; яна больш відушчая, чым рухі, партыі і франты: яны пярэдадзень выніку, а яна дзень і вынік. Таму ў часы грамадскіх разломаў і збояў Максім Багдановіч нам кажа больш, чым шмат якія грамадскія і палітычныя дзеячы са сваімі “правільнымі” заклікамі і высновамі.

Усё, што хоча існаваць, мусіць здзейсніцца: і ў мастацтве, і ў палітыцы. Няздзейсненае выпадае з поля жыццёвай явы, перастае існаваць, якія б выдатныя намеры ні папярэднічалі яму, якія б слушныя “мы казалі” яму ні наступнічалі.

Максім Багдановіч разумеў гэта вельмі добра, не адным літаратарам варта было б прайсці яго творчыя ўрокі.

Наўрад ці я перабольшу, калі скажу, што нашы паэты — той жа Максім Багдановіч, тыя ж Янка Купала і Якуб Колас — для Беларусі зрабілі і робяць больш, чым усе зборныя ўрадавыя каманды; яны для Беларусі больш усенародныя, чым той, хто лічыць сябе “ўсенародна абраным”.

Яны як ніхто другі сапраўдныя прэзідэнты Беларусі; сваю адданасць ёй яны сцвердзілі ўсім сваім жыццём, усёй сваёй творчасцю. Яны тварылі не проста творы, а саму Беларусь, і, па сутнасці, Беларусь як з’ява выявілася, акрэслілася і паўстала найперш дзякуючы ім.

Мы ўсе пэўным чынам сфармаваны нашымі папярэднікамі, мы ўсе пэўным чынам іхнія персанажы. І калі ломіцца рэчаіснасць, калі падзеі шалеюць, мы звяртаемся са сваімі запытаннямі менавіта да іх, каб зарыентавацца ў зрухах каардынатаў і зразумець, што ўсё не так безнадзейна, як можа здавацца.

Некалі, гадоў дваццаць таму назад, я напісаў “Паэму вяхі”, прысвечаную Максіму Багдановічу. Не буду яе агучваць, скажу толькі, што ў яе аснову пакладзены вобразы з “Апокрыфа” — жыта і васілька, народа і музыкі, але з другога, “дэфармаванага”, “двойчы апокрыфнага”, раздзела, дзе жыта не з васільком, а васілёк не ў жыце...

Максім Багдановіч і надалей застаецца вяхою і арыенцірам у беларускіх пошуках Айчыны, у вяртанні Айчыны і вяртанні ў Айчыну. З а п о к р ы ф а — у к а н о н.

“Ты будзеш вечна шукаць свой народ і будзеш знаходзіць...”

*ЯК ПРА НАС*

# КРАІНА ЛАТАФАГАЎ

*СВАБОДА САМАВЫЯЎЛЕННЯ СТАЛАСЯ СВАБОДАЮ САМАЗНІШЧЭННЯ*

АДНО З НАЙЦЯЖЭЙШЫХ маіх уражанняў 1996 года непасрэдна звязана з нашым Саюзам пісьменнікаў. Чытальная зала бібліятэкі саюза. На падлозе — куча ношанага адзення, так званай гуманітарнай дапамогі. У гэтай кучы корпаюцца пісьменніцкія жонкі і самі пісьменнікі. Адзін з іх збянтэжана абураецца дробнымі габарытамі замежных дабрадзеяў. Другі, пажылы, былы рэпрэсаваны, пайшоў быў ужо да дзвярэй, цяжка перастаўляючы ногі, але хтосьці з жанчын настойліва раіць яму выбраць “пінжачок” сабе. І ён, ніякавата ўсміхаючыся, выбраў...

Вось люстэрка сітуацыі, у якой апынулася ўкраінская літаратура. Некалькі гадоў нас прывучалі да думкі, што пры маладой дзяржаўнасці не да літаратуры. Адны прывучалі хітравата-цынічна, з вяршынь свайго нежурботнага дабрабыту, другія — у прыватнасці, і вядомыя рытары, — шчыра лічачы, што ў першую чаргу нацыянальная армія, металургічны ці камбікормавы завод, а культура — пасля.

Рупліўцы аб арміі мелі, вядома ж, на ўвазе ворага знешняга. А хто ўратуе ад страшнейшага ворага — ад нас саміх? І ці зможа падняць металургічны альбо камбікормавы завод чалавек разбэшчаны, прывучаны да няправеднага, аблегчанага варыянта існавання? Закалыхаўшы сябе “патрыётыкай для імпатэнтаў” (Яўген Маланюк), мы праваронілі чужы вопыт: **дзяржава пачынаецца з культуры.**

Гады незалежнасці — гэта гады суцэльнай залежнасці літаратуры ад дэнацыяналізаванай ардынарнасці, прагматычных аберагальнікаў, унутранай непаўнацэннасці кіруючай эліты і, магчыма, у большай ступені ад тых, пра каго з сумнай іроніяй сказана: “не так тыя ворагі, як добрыя людзі”. Гады вялікіх прыніжэнняў і паступовага патанання ў цемру небыцця. Мы аказаліся нежыццястойкімі, нежыццяздольнымі, ператвараемся ў хор прафесійных плакальшчыкаў. І ў гэтай сваёй іпастасі цалкам задавальняем тых, ад каго залежым. Наша жыццё — для іх салодкае свята, пацвярджэнне іх уласнай абароненасці. Мы не здолелі супрацьпаставіць сябе як структуру, з якой павінны лічыцца. Робімся не функцыянальнай арганізацыяй, а дадаткам да надрыўных воклічаў “слава Украіне!” і спарадычных напамінкаў аб тым, што “ще не вмерла”. “Але можа і памерці”, — сказана падзвіжнікам Б. Грынчанка. І пэўна памрэ, калі знікне ўкраінскае слова.

Заблакаванасць культуры ў сённяшнюю эпоху страшней, чым заблакаванасць эпохі імперыі, у тым сэнсе, што вобраз ворага быццам бы размыты. **Незразумела, з кім і як змагацца.** Многіх сёння задавальняе ўяўны выгляд нашай прысутнасці. Пра пісьменнікаў успамінаюць тады, калі праходзяць афіцыйныя мерапрыемствы — юбілеі і іншае — альбо тады, калі маюць патрэбу ў нашай грамадскай падтрымцы. На памяці сустрэча ў прэзідэнта Л. Краўчука за дзесяць дзён да таго, як ён прайграў выбары. А кардынальныя пытанні, звязаныя з нармальным функцыянаваннем літаратуры, так і не вырашаны. Небяспека яшчэ і ў тым, што мы паступова прывыкаем да ролі **літаратурных бомжаў**.

Нядаўні другі з’езд пісьменнікаў Украіны здзівіў многіх сваёй неадэкватнасцю драматызму сітуацыі. Разрывам паміж тым, чаго чакалі ад яго, і ягонымі вынікамі. Сродкі, з такой цяжкасцю здабытыя ў Кабінеце Міністраў, выкінуты фактычна толькі на тое, каб выбраць новы (стары) склад кіраўніцтва СПУ. Прыгадаць гэты з’езд варта толькі таму, што ён стаўся лакмусавай паперкай цяперашняга становішча і ролі пісьменніка ў грамадстве. Ужо з першых выступленняў стала зразумела, куды пахінецца стрэлка барометра. Трэба аддаць належнае Юрыю Мушкеціку: грунтоўнае веданне звычаяў сечавага брацтва ён па-майстэрску спалучыў з вопытам былога кіраўніка. Выказаўшы гатоўнасць пайсці, чым збянтэжыў наіўных сваіх прыхільнікаў, шматгадовы старшыня Саюза пісьменнікаў Украіны пазбавіў прэтэндэнтаў на булаву ўсялякіх шанцаў. Больш за тое — прымусіў іх “не высоўвацца”. Што ж, Ю. Мушкецік — пісьменнік актыўна дзейны, чалавек цярплівы і асцярожлівы — немалыя вартасці ў атмасферы апатыі, адчужанасці і азлобленасці. І хто ведае, ці не прывяла б барацьба за ўладу ў выпадку яго адмовы да самаліквідацыі саюза, акцыі самазабойчай па цяперашнім часе.

Пісьменніцкую арганізацыю ўдалося ўратаваць, і гэта, бадай, ці не адзіны пазітыў з’езда. Кампаніяй, прынамсі, можна ўсчаць гвалт. Гусі, як вядома, уратавалі Рым. Незразумела толькі, чаму “пры такім надвор’і” пагрэбавалі тайным галасаваннем. (Ім не грэбавалі нават у часы таталітарнай сістэмы). Пераканаy — вынік мелі б той самы. Але гэта была б чыстая перамога. Вольная ад папрокаў і абгавораў. А для гэтага ёсць падставы. Перастараліся, а то і сыгралі груба да непрыстойнасці тыя, каму вельмі не хацелася развітвацца з наседжаным месцам. Яно хоць і не вельмі ўтульнае, але ўсё ж дае пэўныя перавагі. Многіх абурыла маніпуляцыя са спісам выступоўцаў, калі слова давалася “надзейным”, што і прывяло да таго, што група таленавітай моладзі кінула пісьменніцкія білеты проста на стол прэзідыума, а В. Яварыўскі з залы выказаў пратэст П. Моўчану, які старшыняваў.

За нервовасцю вакол выбараў неяк незаўважным засталося тое, што на з’ездзе адсутнічае не толькі прэзідэнт, але і ўплывовыя члены ягонай каманды. (Быў толькі віцэ-прэм’ер па гуманітарных пытаннях І. Курас, ды і той неўзабаве пайшоў.)

Такім манерам пісьменніцкая грамада прыніжаецца не ўпершыню, што наводзіць на яшчэ больш сумныя развагі. Раней хоць бы рытуальны бок культуры вытрымліваўся: цяжка ўявіць пісьменніцкі з’езд без Шчарбіцкага і світы, сёння ўжо і рытуалам адкрыта пагарджаюць. Часам здаецца, што векапомны эксперымент, скіраваны на растаптанне мысліцельнай субстанцыі, працягваецца. Гэтым разам — велікадушна дадзенай свабодай незалежнага памірання. Не, нельга сказаць, што на з’ездзе пра гэта забыліся. Але ўсё звялося да нараканняў, якія ўжо і самім пісьменнікам набілі аскому. Нават зварот да ўладных структур вытрыманы ў тым жа духу. І хоць гаворка ў ім сапраўды ішла пра надзённае: пра развал сістэмы кнігагандлю, закон аб мове, пра выдавецкую справу, вяртанне СПУ нерухомасці і г.д. — але сам тон ягоны — жабрачы, які прыніжае пісьменнікаў. Гэта ж толькі чалавек з працягнутай рукой можа вось гэтак выклянчваць, цытую: “хоць бы трошкі большага пенсійнага забеспячэння”.

З жабракамі сёння не цырымоняцца. Але і ўсе легкаважныя адсылкі да вобраза жыццядзейнасці пісьменніка на Захадзе ў сённяшнім гістарычным кантэксце заўчасныя і шкодныя, улічваючы нашы цяжкія нацыянальныя дэфармацыі і звіхі. Гэта выразна відаць у рэтраспектыве. Той, хто вуркоча падобную заезджаную песеньку дагэтуль, павінен ведаць, як прыемна яна лашчыць слых нашых далакопаў. Гэта цудоўны спосаб пазбыцца ад нас, як ад апендыкса. Паралізаваць неўмяшальніцтвам. І паставіць кропку. І назваць гэтую краіну імем, якое дакладна адлюстроўвала б яе скажонае аблічча. Скажам, Латафагіяй. Быў такі ў часы Гамера народ — латафагі, што страцілі памяць і вялі раслінны спосаб жыцця.

Чаго ж мы патрабуем? Здаровага сэнсу. Магчымасці не шыкаваць, а нармальна працаваць. Мы не хочам, каб наша краіна **стала чужой** для нас. Богу — богава, кесару — кесарава, а пісьменніку — пісьменнікава.

Мастак, як вядома, па сваёй прыродзе апазіцыянер. Гэта ягоная прамая рэакцыя на недасканаласць свету. Адсюль і вечная праблема: ён і ўлада. Але ў нас яна мае яшчэ і сваю, неўразумелую немцу ці французу спецыфіку: ці быць нам самімі сабой? Як і раней, знаходзімся мы паміж камянямі жорнаў: паміж заклапочанымі хлебам адзіным і абыякавымі да нашых лементацыяў нізамі і таўстаскурымі філістэрскімі вярхамі. Як і раней, сіндром адступніцтва мае рознааблічныя праявы. І ўсё больш выразна акрэсліваюцца два тыпы патрыятызму: **патрыятызм сыты і патрыятызм галодны.** Ёсць тыя, што існуюць быццам бы ў іншым вымярэнні, і тыя, што вымушаны корпацца ў лахманах гуманітарнай дапамогі. Але бяда не толькі ў гэтым, як і не толькі ў дэфіцыце высакароднасці. А і ў тым, што прыкормлены, прыгрэты, закалыханы прывілеямі патрыятызм **не ў стане ўзвысіць ні ўкраінскую культуру, ні ўкраінскую ідэю**. Яго банальная хвароба — канфармізм — часта праходзіць у латэнтных формах, але прыкметы ягоныя відавочныя. Крытыка сытага патрыёта робіцца ўсё больш бяззубай і абстрактнай, яна пазбягае персаналіяў, а калі і крытыкуе, дык толькі тых і толькі тады, калі гэта пагражае самому яе аўтару, ягоным перспектывам на новыя прывілеі, на магчымасць маячыць пры любым надвор’і. Сыты патрыёт ніколі “не ляжа касцьмі” за літаратуру, а калі і ўсчынае шум з выпадку яе гібелі, дык голас гэты адрасуецца не столькі тым, ад каго залежыць яе лёс, колькі вушам наіўнага і даверлівага патрыёта галоднага.

Неўзабаве мы будзем адзначаць стагоддзе паэта, побач з якім — па “архіпатрэбнасці” — нельга паставіць сёння ніводнага з украінскіх паэтаў XX стагоддзя. Кажу пра унікальнага Яўгена Маланюка. Усё жыццё ён бязлітасна лупцаваў нас за прыроджаныя ці саманабытыя звыродствы, як шкадлівых катоў тыцкаў насамі ў нашы фатальныя пралікі. Убогія духам называлі яго ўкраінафобам, так і не зразумеўшы, з якіх мукі і болю нараджалася гэтая лютая злосць супраць негатыву ўкраінскай гісторыі. Як не хапае Маланюка сёння, як неабходны ягоны лекава-аздараўленчы біч, які дапамог бы нам зняць з вачэй палуду, каб мы ўбачылі нарэшце тое, што адбываецца навакол, ва ўсёй адкрытасці голай праўды, а не палахлівай паўпраўды, з якой мы зрасліся, як сіямскія блізняты.

**Да інерцыі прывыкання** да антыкультурнага курса дзяржавы дадалася **інерцыя прымірэння** з разбуральнымі тэндэнцыямі ў літаратуры. Калісьці паэт Случэўскі геніяльна прадбачыў, што прыйдзе такі час, калі паэзія **скозіцца (знявечыцца)**. Знявечылася не толькі паэзія, але і проза. Выдаюць на-гара вершы, аповесці, раманы, мечаныя знакам выраджэння. Літаратура, як і грамадства, заражана вірусам **нездароўя**, што пацвярджае крах асобы. Пісьменніцкае слова павінна было б аказваць супраціўленне згубным тэндэнцыям часу і падтрымліваць спустошанага чалавека хоць бы напамінаннем пра існаванне красы. А замест гэтага яно пляцецца ў хвасце. Свабода самавыяўлення сталася **свабодаю самазнішчэння.**

Яшчэ пра з’езд як пра зрэз грамадства... У дакладах Ю. Мушкеціка і кіраўніка праўлення Літфонду В. Дразда, у выступленнях дэлегатаў было нямала слушнага. Але пытанне **якасці літаратуры** засталося на перыферыі ўвагі. Называліся другарадныя, а то і нікому невядомыя прозвішчы. Зацыкленасць “на сваіх” прывяла да таго, што, акрамя В. Дразда (але ён асоба, як сказана ўжо, пасадавая), не выступіў ніхто з тых, чые імёны вядомыя не толькі на Украіне. Не выступіў ніхто з пісьменнікаў-дэпутатаў. Не ашчаслівілі сваёй прысутнасцю сход літаратараў кіраўнікі вядучых міністэрстваў, нават сумежных творчых саюзаў.

Сёння мы сведкі і ўдзельнікі занядбання класічнай эстэтыкі. Ганебнага трыумфу новага над старым. Але, як даўно заўважана, новае не азначае лепшае. Як не лепшае і старое, калі яно не здольнае да самаабнаўлення. Грэчаскія трагікі і Шэкспір заўсёды будуць новымі. Таму што сапраўдная мера новага — мера глыбіні духоўнага зместу, а не формы. Даводзіцца нагадваць гэтыя аксіёмы ў сувязі з тым, што заканамернае імкненне, напрыклад, да абнаўлення паэтычнай мовы робіцца ў нас самамэтаю і набывае характар перагону статкаў жывёлы. Пад капытамі дзікага двайніка Пегаса аказаліся і лепшыя ўзоры авангарднага пісьма.

Абломваючы пазуры аб сцены традыцый (а іх абрынуць немагчыма), на Парнас палез літаратурны хам, дэструктар, графаман новай фармацыі. Тое, што раней называлася звычайным паскудствам, папёрла з падваротняў і прыбіральняў на свет божы і муціць ваду, прызначаную для духоўнага піцця (наталення духоўнай смагі). Ва ўжытак пушчана цынічна-сарамлівая формула — ненарматыўная лексіка. Гэта, з дазволу сказаць, ненарматыўшчына — сёння адзін з самых дзейсных спосабаў стварэння і сцвярджэння літаратурных рэпутацый. Навамодныя герастраты не паляць храмаў, яны апаганьваюць іх мацюкамі. Такім невынаходніцкім чынам кампраметуецца і нейтралізуецца і без таго прыніжанае на ўсіх узроўнях украінскае слова.

І не толькі яно: ствараецца вобраз украінца як заалагічнага ксенафоба. З самых свежых прыкладаў — скандальная публікацыя нейкага “Візантыйскага анёла”. Але д’ябал спачатку таксама, як вядома, быў анёлам. І наймагутнейшая зброя д’ябла, як сказана ў Іана Златавуста, — **гнілое слова**. Гэта гнілое слова пад шыльдаю сацарта, андэграўнда і, дзеля справядлівасці, традыцыі таксама гуляе сёння па ўсёй “незалежнай”. Запыніць яго няма каму. Агідна назіраць, як заігрываюць з ім тыя, хто праваранілі момант даспявання гэтай ядавітай гародніны, а цяпер сваёй ганебнай выкрутлівасцю спрабуе прыкрыць прафесійную бездапаможнасць.

А можна, можна было спрагназаваць сітуацыю яшчэ некалькі гадоў назад. І трэба было зусім няшмат: беспамылковае эстэтычнае пачуццё як вынік культуры і дасведчанасці ды мінімум асабістай мужнасці ў выглядзе незалежнасці думкі. Не хапіла ні таго, ні другога. Наступства — культ хамства, пад штандарамі якога, дарэчы, з грукатам праваліўся варты жалю фарс, пайменаваны сходам кіеўскай пісьменніцкай арганізацыі.

Зрушыліся геаграфічна і культуралагічныя акцэнты: у некаторых абласцях жыццё куды больш актыўнае, чым у сталіцы. У прынцыпе працэс нармальны; як кажуць французы, паэты нараджаюцца ў Францыі, а паміраюць у Парыжы. Ёсць у гэтым свае плюсы: кніжкі і часопісы выходзяць нават у раённых цэнтрах. Спакуслівa думаць, што ў нас адбываецца нешта накшталт таго, што было ў Рымскай імперыі пры Актавіяне Аўгусце, у пару залатога веку рымскай літаратуры, у канцы якога ў першы шэраг выйшлі правінцыялы — Парцыял, Сенека, Апулей і іншыя. Але ж у тым і справа, што ўся наша літаратура родам з правінцыі. І не суджана ёй спазнаць ні свайго залатога, ні срэбранага веку, як тым самым рымлянам ці грэкам пры Перыкле.

Дасягненні абласных часопісаў звязаны часцей за ўсё з агучваннем забароненых тэм пры ранейшым рэжыме. Гэта дасягненні з гарчынкай у тым сэнсе, што ўсе яны прыйшлі з катастрафічным спазненнем. Новых эстэтычна яркіх твораў ды яшчэ і пазначаных разуменнем абставін часу ў часопісах мала. Аналітычны артыкул больш дэфіцытны, чым больш-менш прыстойны раман ці аповесць. Не варта пераацэньваць значэнне так званай рэгіяналізацыі культуры і ўлічваючы колькасць выданняў. У многіх з іх столькі банальнага пафасу, псеўдаінтэлектуальнага выхвалячня, безгустоўшчыны і відавочнай бесталкоўшчыны, што хапаешся за галаву — лепей бы яны не выходзілі. Час нам навесці парадак у сваёй здзічэлай літгаспадарцы, даць водпаведзь нарцысізму, ціхамірнай ці нахабнай самадзейнасці, якая скажэнне гістарычнага мінулага называе адраджэннем. Трэба ўспомніць аб тым, што існуе прафесійная годнасць. Бачыцца гэта мною як сістэма эфектыўных мер у цесным кантакце з пісьменніцкімі арганізацыямі на месцах. Сёння нават прыстойная кніжка і нармальны часопіс не маюць шанцаў быць па справядлівасці ацэненымі. Пісьменніцкае слова **не рэзаніруе**. “Фуршэтныя” прэзентацыі, якімі б прадстаўнічымі і шматслоўнымі яны ні былі, робяцца справай келейнай. Трагізм у тым, што, не вярнуўшы і не асвоіўшы ў пэўным аб’ёме страчанае, мы **трацім яго зноў**. **Да страт старых дадаюцца страты новыя.**

Кажуць: бяда навучыць. Чаму ж яна нас не вучыць? Цяпер, калі з’езд — факт мінуўшчыны, не пакідае дзіўнае адчуванне, быццам яго і не было. Ён не стаў мабілізуючым фактарам, які сцвердзіў бы СПУ ў ягонай новай якасці — здольнасці супрацьстаяць рэальнай пагрозе знікнення. Пісьменнікі ўмудрыліся прайсці... міма саміх сябе. Арыентацыі на пасрэднасць, якая відочна прасочваецца ў апаратнай структуры СПУ, цяжарная найдрымучым правінцыялізмам, у застойных водах якога, як вядома, і рак — рыба. Менавіта правінцыялізм схільны да містыфікатарства, да замены старой хлусні новай. Да яе прывучаюць, яе часта навязваюць з бальшавіцкім запалам. На слова праўды — дзесяць гнеўных развенчванняў. Нахабнік адразу ж трапляе ў ізаляванае кола кланавага асуджэння, робіцца “недатыкальным”. З такім багажом упісацца ў еўрапейскі літаратурны кантэкст няма чаго і думаць. Таленавітая моладзь разумее гэта, бунтуе, марыць пра альтэрнатыўны саюз і сваю газету. Але для гэтага патрэбны матэрыяльная база, згода і дакладная праграма дзеянняў.

Пяць гадоў, як літаратура на Украіне кінута дзяржавай на волю лёсу. Пяць гадоў дзяржава спасылаецца на адсутнасць сродкаў. Іх заўсёды не хапала на ўкраінскую культуру, але затое хапала на тое, каб зашмаргнуць вяроўку на яе шыі. З’езд меў усе падставы падумаць аб самых радыкальных сродках пратэсту: **пісьменніцкая забастоўка**. Гэта не падрыў незалежнай Украіны. Гэта падрыў залежнай Латафагіі. Заклік да **дзяржавы іншай якасці**.

Наперадзе часіна новых выпрабаванняў. Пагарджанне духоўнасцю, гэтак паспяхова пачатае пры Леанідзе першым, можа скончыцца поўным крахам маральна-эстэтычных асноў грамадства ўжо пры Леанідзе другім.

Пісьменнік загнаны ў глухі кут. Бязрадаснае, анабіёзнае існаванне.

**Уладзімір БАЗІЛЕЎСКІ**

*г. Кіеў*

*(“Литературная газета”, 25. XII. 96, N52 / 5634)*

## АСКЕПКІ БЫЛОГА...

**У галерэі "Шостая лінія", што знаходзіцца ў адным з карпусоў Політэхнічнай акадэміі, распачалася чарговая выстава — "Exhibition" Андрэя Азарава. Галерэя гэта — адна з нешматлікіх у Мінску некамерцыйных, пастаянна дзеючых, без аніякай схільнасці да продажу прац ці прыстасоўвання да густаў наведвальнікаў. Апошнім часам "Шостая лінія" "спецыялізуецца" на авангардных творах маладых мастакоў, фотамастакоў, прадастаўляючы сваю залу незнакамітым, часта малавядомым творцам, эксперыментатарам мастацтва *і экспазіцыйнай прасторы*, прадугледжваючы пры гэтым адзінае, але грунтоўнае і абавязковае правіла — прадстаўляць гледачу выставу цэласную, канцэптуальную, нават эстэцкую і заўжды адметную. Дзякуючы былой кіраўніцы Алене Дарашэвіч у галерэі бывалі сапраўдныя творчыя ўдачы, цікавыя прыклады ўдзелу ў падрыхтоўцы выставаў маладых мастацтвазнаўцаў і спонсараў (адзін з найбольш актыўных — Фонд Сораса), неардынарныя экспазіцыі пачынаючых і сталых авангардыстаў. Хацелася б пажадаць новай кіраўніцы галерэі Ірыне Бігдай падтрымаць усталяваную пазіцыю "Шостай лініі", не згубіць рэнаме галерэі і ўзбагаціць традыцыйную свабоду мыслення ў аўтарскіх канцэпцыях нетрадыцыйным і канструктыўным мастацтвазнаўчым падыходам.**

**І вось — чарговая экспазіцыя. Андрэй Азараў — выпускнік Мінскага мастацкага вучылішча імя Глебава. Адразу *пасля заканчэння першага* (а для яго і апошняга) курса Беларускай акадэміі мастацтваў, ён заняўся прафесійнымі экспазіцыямі, прыняў удзел у выставе "Урокі нядобрага мастацтва" ў 1992 г. (Мінск), у нядаўняй выставе "Мастакі супраць СНІДа" (1996), а цяпер прадставіў сваю персанальную экспазіцыю.**

**Ідэя, закладзеная ў яе аснову, — даволі прыцягальная: старыя рэчы, як чалавек у сталым узросце, захоўваюць сваю гісторыю, цеплыню ўспамінаў *пра мінулыя гады*. Таму *кожная рэч*, безумоўна, помнік, які заслугоўвае быць захаваным у рамачцы пад шклом нароўні з карцінай мастака. Гэтага варты і старыя лісты, і запісныя кніжкі, і кавалкі дрэва з паржавелымі вялікімі цвікамі, засаўкамі ад дзвярэй сялянскіх хат, механічнымі прыладамі ад старых механізмаў. У пэўным сэнсе Андрэй Азараў імкнуўся знайсці ва ўспрыманні гледача нябачную неабароненую *шалупіннем цывілізацыі прастору*, у якой могуць існаваць дарагія сэрцу асацыяцыі: вёска, калодзеж, пуня, драўляныя вароты, зрэшты, усяго таго мацярынска-дзіцячага, напаўпаганскага, што так і не знікла цалкам з падсвядомасці нават гараджаніна-беларуса (дарэчы, такі "паганскі" феномен не прайшоў незаўважаным і для замежных даследчыкаў нашай культуры, якія на яго падставе разглядаюць менталітэт беларуса). І сапраўды, паўкругі ад драўляных цабэркаў выклікаюць успамін аб квашанай капусце ці салёных агурках ("Сонечны гадзіннік"), а чырвоныя палоскі, нібы пагоны, — аб чырвонаармейцах і апасродкавана аб усёй крывавай гісторыі савецкай дзяржавы ("Чырвонаармеец"), але ж Андрэй *пры гэтым* не давёў завяршэнне ідэі да сапраўднага творчага выбуху, калі кінутае зерне ідэі дае ў выніку магутны твор. Рэчы, па канцэпцыі А. Азарава, павінны былі б стацца фільтрамі, псіхаорганамі, аб'ектамі-карцінамі, выклікаць уяўныя асацыяцыі чалавечай існасці, адкрыць тое, што чалавек забыў альбо страціў, — веды, рэчаіснасць... Але гэтыя рэчы, на жаль, пакідаюць адчуванне прадэкламаванай, а не сапраўднай *глыбіні*. Яны ўсяго толькі спроба творчасці, аскепкі былога без магчымасці далейшага мастацкага развіцця, арганічны матэрыял, з якога не вылепілася карціна.**

**Апошнім часам маладыя мастакі, асабліва тыя, што не маюць скончанай мастацкай класічнай адукацыі, часта звяртаюцца да абстрактных формаў. І, на жаль, іх спробы ўсё часцей становяцца няўдалымі, няпэўнымі. Няма ані стварэння новай вобразнай сістэмы, ані скарыстоўвання нестандартных мастацкіх сродкаў. Таму хацелася, каб і Андрэй Азараў не шукаў больш "лёгкіх" шляхоў у мастацтве, каб укладваў у свае творы больш фантазіі, больш адкрыццяў, і не стаўся парасткам, што страціў сваю глебу.**

**Н. К.**

# НЕ КАНТОРА КНІЖНАЯ — ПАЛАТА!

ЁСЦЬ СЛОВЫ, якія ўжо сваім гучаннем *прыцягваюць увагу*, а то і хвалююць. Адно з такіх слоў для мяне — палата. Высокае, багатае і чужое слова: царскія палаты, княжацкія палаты, Збройная ды Гранавітая палаты Маскоўскага крамля... Слоўнікі слушна тлумачаць: паходзіць слова ад лацінскага palatium — гэта значыць, палац. А бальнічныя палаты — таксама ад гэтага лацінскага кораня? Пэўна ж, хоць у дадзеным выпадку зберагаецца за словам толькі частка значэння: чысціня, парадак, бялізна. Ну, а палаці нашы беларускія — пры сцяне, а часцей пры печы? Дзе іхні корань? Таксама ў лаціне? Чаму б і не, пасміхнемся, прынамсі, узімку, калі за сцяною вые мяцеліца і трашчыць мароз, на цёплых палацях утульней, бадай, чым у тых хвалёных княжацкіх палатах.

Адышлі, можна сказаць, у нябыт тыя палаты (і палаці нашы — таксама) і *слоўнае абліčча іх жыве хіба ў казках*, у кнігах ды сяды-тады выкарыстоўваецца сённяшнімі людзьмі з добраю доляю іроніі, зайздрасці ці пагарды: маўляў, пабудаваў сабе палаты, ці, розуму — цэлая палата...

А вось што да розуму, якога нібыта бывае гэтак многа — ажно цэлая палата! — дык тут ужо маюцца на ўвазе, напэўна, зусім іншыя палаты. Не харомы царскія, княжацкія ды панскія, а — усяго толькі дзяржаўныя службы, ці, больш дакладна, установы, што займаюцца зусім пэўнымі, канкрэтнымі, карыснымі і неабходнымі для той самай дзяржавы справамі. Згадаем тут гандлёвыя палаты, палаты меры і вагі, судовыя палаты, парламенцкія палаты і, вядома ж, кніжныя. Вось пра апошнюю і пойдзе гаворка...

Пра тое, што ёсць у Беларусі, існуе ў прыродзе Кніжная палата, ведаюць усе. Але ці многія з нас хоць прыблізна ўяўляюць, што там робяць людзі, у той Кніжнай палаце, чым займаюцца? Адносна бібліятэкі няма сумненняў ані ў кога. А наконт кніжнай палаты сёй-той і задумаецца: нешта там з кнігамі, пэўна, робіцца, а што канкрэтна, дык і не скажа. Прызнаюся, я й сама да апошняга часу не надта сабе ўяўляла, чым там займаюцца супрацоўнікі ці работнікі палаты. І даўно было жаданне пазнаёміцца з гэтым бліжэй. *Нагода ж надарылася* нечакана. Літаральна напярэдадні Новага года пачула па радыё, што Нацыянальная кніжная палата Беларусі справіла наваселле — пераехала на вуліцу Веры Харужай, 31 "а", а гэта ж — зусім недалёка, можна сказаць, побач з маім месцам жыхарства. Адшукала я тэлефон, дамовілася наконт сустрэчы і...

Гаворка наша з дырэктарам Кніжнай палаты Беларусі Анатолем ВАРАНЬКО пачалася, само сабою, з перасялення. А як жа іначай? Бадай, ніводнай з дзяржаўных устаноў гэтак не "шанцавала" на пераезды. Асабліва — апошнім часам. У 1977 годзе, калі на праспекце Машэрава быў пабудаваны Дом кнігі і куды перабралася, разам з іншымі ўстановамі, і Кніжная палата, здавалася, што тыя пярэбары будуць апошнія. На тое былі, як кажуць, важкія падставы. Дом кнігі задумваўся як адзіны выдавецка-паліграфічны і бібліяграфічны комплекс. І не проста задумваўся, а й дзейнічаць пачаў. Кіпела-віравала там кніжнае, так бы мовіць, жыццё: кнігі тут рыхтаваліся для выхаду ў свет, улічваліся тыя, што выходзілі, ладзіліся іх шматлікія выставы, кірмашы, розныя конкурсы ды прэзентацыі. Ды сталася так, што, як у той песні спявалася, нядоўга музыка іграла. Кніжную палату вырашылі (нехта і недзе) перакінуць на новае месца, на вуліцу Бабруйскую, у будынак, дзе месціўся "штаб" так званай грамадзянскай абароны. Але і там не суджана было атабарыцца надоўга, і сёння Кніжная палата Беларусі мае, як я ўжо казала, новы адрас — вуліца Веры Харужай, 31 "а"...

**— Сюды ўжо — на пастаяннае "месцажыхарства", Анатоль Іосіфавіч? — перапытваю-перапыняю ягоны аповед.**

— Спадзяёмся. Тым больш, што, як кажуць, ад дабра дабра не шукаюць. Некалі на праспецке Машэрава ў Доме кнігі мы *займалі каля 400 квадратных метраў, на* Бабруйскай — каля 700, а тут атрымалі больш за 1000 квадратных метраў. Так што маем сёння сапраўды палаты. Плошча адпавядае нашым санітарна-гігіенічным нормам *і забяспечвае ўмовы для нармальнай* работы. Вядома ж, пераезды не лепшым чынам сказаліся на працы нашага калектыву, мы ў нейкай ступені страцілі тэмп работы, які павінен быць, каб рыхтаваць і забяспечваць нашых спажыўцоў аператыўнай бібліяграфічнай інфармацыяй, своечасова выпускаць нашы бібліяграфічныя выданні,



якімі карыстаюцца бібліятэкі, інфармацыйныя цэнтры краіны, а таксама спецыялісты народнай гаспадаркі ўсіх накірункаў дзейнасці.

**— *Дык што ж гэта такое*, Нацыянальная кніжная палата?**

— Кажучы сучаснай мовай, гэта дзяржаўны навукова-бібліяграфічны цэнтр у галіне дзяржаўнай бібліяграфіі, статыстыкі друку, апрацоўкі дакументаў, гэта — галоўная служба стандартызацыі і навукова-тэхнічнай інфармацыі ў галіне выдавецкай дзейнасці, паліграфічнай прамысловасці і кніжнага гандлю.

**— Наколькі я ведаю, Анатоль Іосіфавіч, пры савецкай размеркавальнай сістэме Кніжная палата атрымлівала абавязковы бясплатны экземпляр кожнага друкаванага выдання. Якія сёння магчымасці і ўмовы папаўнення фондаў?**

— У адпаведнасці з пастановай Кабінета Міністраў рэспублікі N 419 ад 24 чэрвеня леташняга года "Аб зацвярджэнні парадку рассылкі абавязковых бясплатных і платных экземпляраў друкаваных выданняў" *мы атрымліваем ад усіх паліграфічных прад*прыемстваў, друкарняў, малых прадпрыемстваў, ратапрынтных участкаў і г.д. усю друкаваную прадукцыю, якая выдаецца ў межах нашай краіны. Атрымліваем мы і тыя выданні, *якія выпускаюцца па заказах на*шых выдаўцоў за межамі Беларусі. У нас працуе спецыяльны аддзел, куды паступае абавязковы экземпляр друкаванай прадукцыі. Аддзел кантралюе дастаўку, атрыманне гэтага экземпляра і тым самым забяспечвае работу ўсіх іншых аддзелаў палаты. У гэтым аддзеле складаюцца Лісты дзяржаўнай рэгістрацыі, якія ўтрымліваюць аператыўную інфармацыю аб усёй выдавецкай прадукцыі. З мінулага года аддзел перайшоў на аўтаматызаваную апрацоўку дакументаў, і сёння спажывец можа атрымліваць неабходную яму інфармацыю на дыскетах.

**— Уражанне такое, што цяпер выдавецкай дзейнасцю займаюцца ўсе, каму толькі хочацца. І ўсе яны пунктуальна выконваюць гэтую пастанову Кабінета Міністраў?**

— Сапраўды, выдаўцы ўступілі ў рыначныя адносіны з большым імпэтам, чым прадстаўнікі іншых сфер дзейнасці. Дэманапалізацыя выдавецкай дзейнасці пачалася з 1992 года. Датуль у нас існавала афіцыйна зарэгістраваных 11 дзяржаўных выдавецтваў і 17 выдавецкіх арганізацый. Сёння ж ліцэнзіі на выдавецкую дзейнасць маюць больш чым паўтары тысячы арганізацый і асобных выдаўцоў. І прыйшлі ў гэтую сферу, на жаль, не надта падрыхтаваныя людзі, якія часта не разумеюць важнасці, неабходнасці рассылкі абавязковых экземпляраў, не маюць уяўлення, дзеля чаго яны патрэбны той самай Кніжнай палаце. Таму цяжкасці з атрыманнем абавязковага экземпляра ў нас, як кажуць, існуюць. І невыпадкова згаданы мною аддзел афіцыйна мае такую назву: "Аддзел прыёму і кантролю за паўнатой паступлення рэспубліканскага друку". Спадзяванняў на выдаўцоў і паліграфістаў малавата. Даводзіцца нават і па кіёсках хадзіць, адшукваць там тыя ці іншыя выданні, якія па нейкіх прычынах да нас не трапілі, і выкупляць іх.

**— У дадатак сёння ж і грошы лічыць усе навучыліся, у тым ліку і выдаўцы, тым больш, што папера падаражэла, друкарскія выдаткі павялічыліся...**

— Безумоўна! Гэта таксама прычына нашых цяжкасцей. Калі гаварыць па вялікім рахунку, патрэбен закон аб абавязковым экземпляры. Толькі ён можа паставіць у гэтай справе ўсе кропкі на "і". Дарэчы, у многіх краінах свету, у тым ліку і ў некаторых былых саюзных рэспубліках, напрыклад, у Расійскай Федэрацыі, такія законы ёсць. У нас, на жаль, толькі пастанова...

**— Анатоль Іосіфавіч, аднак жа — якія ўсё ж асноўныя задачы і накірункі дзейнасці Кніжнай палаты?**

— Асноўная задача — інфармаванне грамадства аб усім, што выдаецца ў нашай краіне. Бібліяграфічная інфармацыя для спажыўцоў у выглядзе дзяржаўных бібліяграфічных паказальнікаў. Першы з іх быў выдадзены яшчэ ў 1924 годзе асобным выданнем, якое называлася "Летапіс беларускага друку". Летапіс гэты мы вядзём і сёння. Нават і назву пакінулі, нягледзячы на змены, якія адбыліся і адбываюцца ў нашым грамадстве. Толькі пад гэтай агульнай назвай — "Летапіс беларускага друку" — выпускаем тры асобныя выданні. Паток інфармацыі рэзка павялічыўся. Мяркуйце самі: на пачатак леташняга года ў Беларусі *было зарэгістравана каля 600 назваў газет* і больш чым 300 назваў часопісаў і бюлетэняў. Таму "Летапіс..." давялося падзяліць на тры выданні: "Кніжны летапіс", "Летапіс часопісных артыкулаў" і "Летапіс газетных артыкулаў". Увогуле ж мы выдаём 10 тыпаў летапісаў друкаванай прадукцыі. Гэтая сістэма летапісаў пабудавана па відавых адзнаках. Напрыклад, "Летапіс картаграфічных выданняў" адлюстроўвае карты самага рознага характару і прызначэння, атласы і г.д., "Летапіс нотных выданняў" фіксуе ўсё, што звязана з нотнай прадукцыяй. Можна назваць яшчэ, скажам, "Летапіс рэцэнзій". Бадай, самаму дападнаму чалавеку не пад сілу прагледзець усе часопісы і газеты ў пошуках водгукаў на тую ці іншую кнігу, а з дапамогай "Летапісу рэцэнзій" ён зробіць гэта лёгка і хутка.

**— Анатоль Іосіфавіч, вы гаварылі, *што Кніжная палата — гэта і рэспубліканскі* цэнтр статыстыкі друку. А статыстыка, як канстатаваў Астап Бэндар, ведае ўсё. Што ведае статыстыка Кніжнай палаты?**

— Сапраўды, яна ведае ўсё, што робіцца ў нашай выдавецкай справе. Афіцыйна мы вядзём гэтую статыстыку на працягу ўжо амаль 80 гадоў на базе ўліку абавязковых экземпляраў і выдавецкіх справаздач. Вынікі па групах дыферэнцыраванага ўліку адлюстроўваюцца ў штогодніку "Друк Беларусі". Карацей кажучы, служба статыстыкі Палаты мае унікальную інфармацыйную базу.

**— Кніжную палату можна, пэўна, назваць і музеем друкаванага слова. За тры чвэрці стагоддзя што ў вас сабрана? Якімі лічбамі характарызуюцца вашы фонды?**

— Толькі не музеем, а архівам. Той самы абавязковы экземпляр пасля бібліяграфічнай апрацоўкі трапляе ў архіў друку, які пачаў фарміравацца з моманту арганізацыі Кніжнай палаты і на сённяшні дзень налічвае каля 4 мільёнаў адзінак захоўвання. Наш архіў друку — гэта найбольш поўны збор айчыннай друкаванай прадукцыі, якая ў сукупнасці адлюстроўвае гісторыю нашага народа і дзяржавы і таму мае вялікае гістарычна-культурнае значэнне.

**— І хто карыстаецца гэтым багаццем? Які кантынгент вашых кліентаў, Анатоль Іосіфавіч?**

— Архіў друку — гэта не бібліятэка, ён не можа быць адчынены для масавага чытача. Тым не менш, ягоныя фонды — не за сямю пячаткамі. Ён шырока выкарыстоўваецца для перавыдання нашай айчыннай літаратуры, для даведачна-бібліяграфічнай работы, для навуковых даследаванняў і г.д. У асноўным спажыўцамі бібліяграфічнай інфармацыі з'яўляюцца бібліятэкі, навукоўцы, спецыялісты розных галін дзейнасці. Урэшце, інфармацыяй таго ж "Летапісу друку Беларусі" могуць карыстацца ўсе жадаючыя.

Хацеў бы яшчэ дадаць, што для паўнаты і дакладнасці бібліяграфічнай інфармацыі ў мэтах упарадкавання афармлення выдавецкай прадукцыі мы вядзём пастаянную работу па стандартызацыі, якая мае немалое практычнае значэнне. За апошні час, напрыклад, мы выпусцілі такія дзяржаўныя стандарты, як "Бібліяграфічны запіс", "Скарачэнне слоў і словазлучэнняў на беларускай мове", "Падручнікі і вучэбныя дапаможнікі для адзінаццатых і дванаццатых класаў агульнаадукацыйнай школы", падрыхтавана выданне "Міжнародная стандартная нумарацыя кніг" і інш.

**— Дарэчы, пра міжнародныя стасункі Палаты што можаце сказаць?**

— У Берліне, скажам, месціцца Міжнароднае агенцтва па стандартнай нумарацыі кніг. У яго мы ўступілі ў 1992 годзе. Зараз кожнай нашай кнізе прысвойваецца міжнародны стандартны нумар. Для простага чытача ён нічога не гаворыць, яго трэба ўмець чытаць, гэта задача спецыялістаў па кнізе. Працуем мы таксама з арганізацыяй ЮНЕСКА, якая выдае сусветны каталог перакладной літаратуры, паказальнік амаль на паўтары тысячы старонак тэксту, дзе ўся інфармацыя падаецца на лацінцы. Існуе і Міжнародная агенцтва па стандартнай нумарацыі серыйных выданняў, але каб уваходзіць у яго, трэба ўносіць штогадовы валютны ўзнос, чаго мы, на жаль, не можам сабе дазволіць. Спадзяёмся, што ўжо сёлета пытанне з валютнымі ўзносамі будзе вырашана, і мы зможам інфармаваць сусветнае супольніцтва аб нашых сродках масавай інфармацыі — газетах, часопісах, бюлетэнях.

**— Анатоль Іосіфавіч, напаследак хачу спытаць вось аб чым. Як вы сябе пачуваеце ў сённяшніх складаных эканамічных умовах? Які ваш матэрыяльны і, адпаведна, маральны статус?**

— Непасрэдна мы падпарадкаваны Дзяржкамдруку Рэспублікі Беларусь. І мы ўдзячны кіраўніцтву Камітэта і за гэтае новае памяшканне, і за фінансаванне, і за разуменне важнасці і патрэбнасці нашай работы, за разуменне таго, што Кніжная палата — гэта банк дадзеных, у якім сабрана ўся наша выдавецкая прадукцыя, а гэта — багатая і дакладная інфармацыя пра ўсё наша жыццё, гэта сведчанне часу, гэта ўрэшце наша гісторыя. Але сядзець і спадзявацца, што ўсё прыйдзе само па сабе, мы не збіраемся. У нас сфарміраваўся вельмі працаздольны, захоплены, ініцыятыўны, аддадзены справе калектыў. Ён адначасна невялікі — разам з тэхнічным персаналам нас недзе каля 70 чалавек. Апошнім часам прыйшло нямала руплівай, камунікабельнай, тэхнічна падрыхтаванай моладзі. Гэта самаадданыя людзі, бо, самі разумееце, заробкі ў нас невялікія. Увогуле наш калектыў усведамляе ўсю значнасць той працы, якую выконвае, разумее, што нацыянальная бібліяграфія — гэта частка сусветнай культуры. Паступова перабудоўваем сваю работу, пераходзім на новыя тэхналогіі, на камп'ютэрызацыю бібліяграфічных працэсаў, ствараем закончаную аўтаматызаваную сістэму бібліяграфічнай апрацоўкі інфармацыі, ствараем новыя структуры, адэкватныя сучасным варункам. Працуем, адным словам...

**— Дзякуй, Анатоль Іосіфавіч, за гутарку. Поспехаў у вашай такой адметнай, нялёгкай, патрэбнай працы!**

**Гутарыла Марыя МІХАЙЛАВА**

# ГАННА НОВІК



7 студзеня 1997 г. на 83-ім годзе жыцця памерла паэтэса Ганна Новік.

Ганна Аляксееўна Новік нарадзілася 25 сакавіка 1914 года ў горадзе Аўгуставе (цяпер Польшча) у сям'і кавяля. Дзяцінства правяла на Вілейшчыне. У 1932 годзе скончыла 7 класаў. Працавала наймічкай, была ў лагеры для беспрацоўных пад Варшавай, удзельнічала ў нацыянальна-вызваленчым руху Заходняй Беларусі, неаднаразова падвяргалася рэпрэсіям, сядзела ў турме. У час Вялікай Айчыннай вайны — партызанская сувязная. У мірныя дні працавала старшынёй калгаса, старшынёй сельсавета.

Узнагароджана ордэнам Айчыннай вайны II ступені і медалямі.

Свае першыя вершы Ганна Новік надрукавала ў 1937 годзе. З-пад яе пяра выйшлі зборнік вершаў "Мае вёсны", аповесць "Другая сустрэча", у перыядычным друку выступала з нарысамі і апавяданнямі.

Пайшоў з жыцця чалавек няпростага жыццёвага лёсу, таленавіты аўтар, чулы таварыш — Ганна Новік. Памяць пра яе застанецца ў сэрцах тых, хто ведаў яе.

**Саюз беларускіх пісьменнікаў**

# МІКОЛА ФЕДЗЮКОВІЧ

8 студзеня 1997 года на 54-ым годзе жыцця раптоўна памёр беларускі паэт Мікола (Мікалай Мікалаевіч) Федзюковіч. Горка і цяжка ўсведамляць, што смерць так заўчасна і недарэчна забрала яшчэ аднаго нашага таварыша, таленавітага творцу, сціплага і добрага чалавека.

Нарадзіўся Мікалай Федзюковіч 22 мая 1943 года ў вёсцы Гутава Драгічынскага раёна Брэсцкай вобласці. Закончыў сярэднюю школу і два гады (з 1960 па 1962) працаваў у раённых газетах Брэстчыны. Пасля службы ў войску паступае ў Літаратурны інстытут імя М. Горкага ў Маскве, па завяршэнні вучобы з 1970 года стала займаецца літаратурнай і журналісцкай працай: рэдактар у выдавецтве "Народная асвета", літсупрацоўнік, потым загадчык аддзела літаратуры і мастацтва газеты "Чырвоная змена", рэдактар у рэдакцыі часопіса "Служба быту". Апошнія гады свайго жыцця ён прысвяціў выхаванню творчай моладзі, працуючы літкансультантам пры газетах "Звязда", "Чырвоная змена", "Белорусская нива". Не адзін дзесятак маладых літаратараў блаславіў на творчае жыццё ў перадачах "Шчырага сэрца парывы" і "Неруш" на рэспубліканскім радыё.

Свае першыя вершы Мікола Федзюковіч надрукаваў у 1962 годзе ў лунінецкай міжраённай газеце "Ленінскі шлях". Затым пабачылі свет яго кнігі паэзіі "Зямля-магніт" (1968), "Мілавіца" (1971), "Птушыны грай" (1976), "Макаў цвет" (1979). З яго творчасцю знаёмы і чытачы за межамі Беларусі, многія вершы перакладаліся на рускую і іншыя мовы, у 1976 г. у Маскве выйшла з друку яго кніга "Птичье дерево".

Лепшыя вершы Міколы Федзюковіча прываблівалі чысцінёй пачуццяў, навізной успрымання жыццёвых праяў, любоўю да роднай зямлі і яе людзей. "Да скону я ў Радзіму улюбёны" — пісаў ён у адным з вершаў. І гэта не было дэкларацыяй, гэтаму пачуццю ён застаўся верным да апошніх дзён свайго нядоўгага веку.



Таленавіты паэт, шчыры, душэўны і добры чалавек — такім ён запомніцца нам, такім ён паўстане перад нашчадкамі са старонак напісаных ім кніг.

**Саюз беларускіх пісьменнікаў**

ГЛЫБІНКА

# ЖЫЦЬ ДЛЯ БЕЛАРУСІ

*"Адзінай мэтай не зракуся,*
*І сэрца мне не задрыжыць.*
*Як жыць, дык жыць для Беларусі,*
*А без яе — зусім не жыць..."*

Гэтыя радкі аднаго з вершаў знакамітай беларускай паэткі Ларысы Геніюш могуць быць эпіграфам як да яе кніжкі "Ад родных ніў", своеасаблівая прэзентацыя якой адбылася нядаўна ў некалькіх калектывах на Уздзеншчыне, так і да ўсёй яе творчасці, а таксама да тых літаратурных сустрэч, мерапрыемстваў, што праходзілі ў г. п. Узда напрыканцы лістапада. А надарылася такая магчымасць дзякуючы вось ужо трохгадовым сувязям з мясцовым літаратурным аб'яднаннем "Нёманец" паэта і краязнаўцы, даследчыка беларускай літаратуры, загадчыка літаратурнай часткі Слонімскага беларускага драматычнага тэатра Сяргея Чыгрына.

Пачыналася ўсё так. Прачытаўшы ў газеце "Літаратура і мастацтва" звесткі пра выхад на Уздзеншчыне нашага першага зборнічка вершаў "Зямля мая, край маляўнічы", Сяргей зацікавіўся ім, даслаў на адрас літаб'яднання ліст з просьбай выслаць кніжачку, падзяліцца вопытам выдавецкай дзейнасці на раённым узроўні. Просьба была задаволена, завязалася перапіска, тэлефонныя перамовы. У Слонім дасылалася ўсё выдадзенае ў Уздзенскай друкарні, С. Чыгрын у сваю чаргу дасылаў навінкі Слонімскай друкарні. Неўзабаве бібліятэка "Нёманца" папоўнілася ягонымі кніжкамі з аўтографамі: "Янка Купала і Слонімшчына" (дакументальны нарыс, вершы), "Шыпяя Шчара", зборнік вершаў тамашняга літаб'яднання "Золак над Шчарай".

Завочнае знаёмства абяцала не менш прыемныя ўражанні і ад першай сустрэчы. Тым больш, што неўзабаве надарылася дзеля гэтага важкая падстава. Сяргей Чыгрын і Міхась Скобла выдалі ў канцы мінулага года ў Слонімскай друкарні факсімільна кніжку Ларысы Геніюш "Ад родных ніў", што ўпершыню пабачыла свет у Празе ў 1942 годзе. Вось і папрасіў мой знаёмы і сябра арганізаваць на Уздзеншчыне некалькі сустрэч, дзе б ён змог расказаць трохі пра жыццёвы і творчы шлях паэткі, пра яе кнігі, а заадно і распаўсюдзіць гэтае цікавейшае выданне.

І вось Сяргей завітаў на Уздзеншчыну. Завітаў не з пустымі рукамі, а з важкімі пакункамі кніжак Л. Геніюш і ўласным зборнічкам. Першая сустрэча з ім была наладжана 21 лістапада дзякуючы дзейснай дапамозе настаўніцы Уздзенскай СШ N 1 імя А. С. Пушкіна, члена літаб'яднання "Нёманец" Зінаідзе Жукоўскай менавіта ў гэтай школе. На яе прыйшлі настаўнікі, вучні, аматары літаратуры, краязнаўцы.

С. Чыгрын падрабязна расказаў прысутным пра лёс паэтэсы, пазнаёміў з яе творчасцю.

Акрамя першага, пражскага зборніка пры жыцці паэткі, чыю творчасць некаторыя даследчыкі літаратуры параўноўваюць з творчасцю беларускага песняра Я. Купалы (і па стылі, лірычнай скіраванасці твораў, іх грамадзянскім гучанні, і па колькасці напісанага, ды, на жаль, не надрукаванага), былі выдадзены яшчэ наступныя кніжкі вершаў Л. Геніюш: "Невадам з Нёмана" (1967) і "На чабары настоена" (1982), дзіцячыя "Казкі для Міхаські" (1972) і "Добрай раніцы, Алесь!" (1976). Акрамя таго, у 1980 годзе былі выдадзены зборнік "Белы сон" і аўтабіяграфічная аповесць "Споведзь" (змешчана ў часопісе "Маладосць", пазней — асобнай кніжкай), годам раней — паэма "Маёй бабусі" ў часопісе "Спадчына".

Вось і ўсё з надрукаванага. А засталіся ж яшчэ ў рукапісах сотні, тысячы яе вершаваных радкоў, якія так і не пабачылі свету. Як сцвярджае С. Чыгрын, толькі ў яго асабіста маецца матэрыялу паэткі на ладных пяць кніжак. Наогул жа дзіўныя адносіны мясцовых улад, літаратурнай грамадскасці да творчай спадчыны Л. Геніюш. Пасля яе смерці прыехалі з Польшчы яе родзічы (там жыў адзіны яе сын, цяпер жыве нявестка, унукі), паведамілі, што дом у Зэльве маюць намер прадаць, таму папрасілі, каго ведалі, забраць кнігі, рукапісы паэткі. А кніг тых было — тысячы, у кожным пакоі застаўлены паліцы ад падлогі да столі. Ды ўсе гістарычна значныя, многія — з аўтографамі знакамітых людзей, шмат літаратуры было па медыцыне (як вядома, і муж, і сын паэткі працавалі ўрачамі). Было там і шмат пласцінак, карцін, іншых каштоўных рэчаў — даваенных, дарэвалюцыйных. Спачатку была дамоўленасць, што ўсё гэта выкупіць галоўная дзяржаўная бібліятэка Беларусі, ды пасля адмовіліся — не знайшлі сродкаў. С. Чыгрын патэлефанаваў знаёмым (сваім і тым, хто добра ведаў Л. Геніюш) паэтам, мастакам, тыя прыйшлі, узялі, хто колькі змог панесці, а астатняе... Праз некалькі дзён мясцовы быткамбінат выкупіў для сваіх работнікаў дом паэткі, а ўсё, што ў ім заставалася, пагрузілі... у самазвал, вывезлі ў поле і спалілі. Вось так. А праз некалькі гадоў пачалі мясцовыя краязнаўцы пошукі матэрыялаў, каб пачаць стварэнне музея Л. Геніюш. Але і па сённяшні дзень музея няма, ужо з дзесятак гадоў ляжыць у цёмнай каморы выраблены бюст Ларысы Антонаўны, а на факсімільнае перавыданне яе зборніка "Ад родных ніў" дзяржава не затраціла ні капейкі, усе клопаты, затраты ўзялі на сябе фундатары, мясцовыя літаратары ды краязнаўцы...

Шмат яшчэ цікавых фактаў з жыццёвага і творчага лёсу Л. Геніюш паведаміў прысутным у СШ N 1 Сяргей Чыгрын. Затым ён, а таксама члены літаб'яднання "Нёманец" Зінаіда Жукоўская, Алена Казнадзей і аўтар гэтых радкоў чыталі свае вершы, адказвалі на пытанні. У выніку звыш 50 кніжак Л. Геніюш знайшлі сваіх новых чытачоў і прыхільнікаў у сценах школы.

А пасля прыкладна па такім жа сцэнарыі адбылася сустрэча С. Чыгрына і членаў "Нёманца" з дзецьмі, выкладчыкамі і выхавальнікамі Уздзенскай санаторнай школы-інтэрната. Госць Уздзеншчыны наведаў таксама раённы гісторыка-краязнаўчы музей, пабываў на пасяджэнні літаратурнага аб'яднання "Нёманец". Тут таксама многа было сказана пра жыццё і творчасць Л. Геніюш, гучала шмат вершаў.

Будзем спадзявацца, што творчыя сувязі дзвюх суседніх прынёманскіх абласцей, двух раёнаў, літаратараў-аматараў Уздзеншчыны і Слонімшчыны будуць працягвацца, што кожны з нас застанецца ў душы такім жа патрыётам сваёй Радзімы, якім ад нараджэння да канчыны была Л. Геніюш, і што заўсёды мы будзем помніць словы паэткі пра тое, што "...у шырокім, заблытаным свеце толькі Край наймілейшы нам свой".

**Віктар САБАЛЕЎСКІ, кіраўнік літаб'яднання "Нёманец"**

**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Янку КАЗЕКУ з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці жонкі Вольгі Дзмітрыеўны.**

Тацяна ВОЛКАВА

# ЗНАХОДКА

## *ЗАМАЛЁЎКА З НАТУРЫ*

НАПЭЎНА, такое магло здарыцца толькі ў цудоўным сне. Або ў казцы. Толькі не ў жыцці! А тым больш, у жыцці такой сціплай настаўніцы, якой была Вольга!

Таму яна нават разгубілася, калі ўбачыла проста пад нагамі згубленыя нейкім разявакам грошы. Так, грошы — ды не абы-якія! Гэта былі долары! Яны так прывабна зелянелі на снезе!

Нейкі мужчына ўважліва глядзеў то на грошы, то на Вольгу. Знешне спакойная, яна нахілілася, падняла грошы — і пайшла, хоць хацелася бегчы. Сэрца моцна калацілася. Ёй здавалася, што ЎСЕ бачылі, як яна падняла чужыя грошы. Што зараз з'явіцца гаспадар "зялёных" (ім мог быць нават той мужчына!) — і ўсе пачнуць паказваць на Вольгу і крычаць:

— Гэта яна! Яна ўзяла вашы грошы! Яна схавала іх ву-унь у тую кішэню!

Азірнуўшыся, Вольга хуценька выцягнула грошы з кішэні і схавала іх у рукавічку. навокал, дзякуй Богу, было пуста, бо яна збочыла ў нейкі прахадны двор, дзе рэдка каго можна было пабачыць зімой.

Дадому Вольга прыбегла задыханая ад хвалявання. Ёй пад ногі падкацілася вялізная аўчарка Ева, кінулася следам за гаспадыняй у хату. Вольга строга паглядзела на прыгажуню Еву, але нічога не сказала: няхай ідзе, з сабакам спакайней! Тым не менш, дзверы яна зачыніла на ключ. Некалькі разоў яна выглядвала ў вокны: можа, ужо хто-небудзь з'явіўся па свае грошыкі?!

Паступова яна супакоілася. Можна было выцягнуць долары і паглядзець, што ж яна знайшла. Бацюхны! Аж дзве паперчыны з лічбай "100"! Можа, для некага гэта зусім няшмат, але не для Вольгі, якая працавала ў дзвюх школах, мела 27 гадзін у тыдзень, але зарабіць такую суму магла толькі за некалькі месяцаў.

А што, калі яны фальшывыя?! Вольга да гэтага выпадку трымала долары толькі раз у жыцці ў руках. Гады два таму, атрымаўшы грошы за водпуск, яна вырашыла зрабіць маленькі валютны "бізнес". Купіць долары, пачакаць, а потым прадаць іх у два, а то і тры разы даражэй. На жаль, нічога з таго не атрымалася! Менавіта пасля пакупкі долар не проста перапыніў свой "рост", але нават зрабіўся таннейшы. Таму яна атрымала за свае "зялёныя" менш, чым заплаціла. Не нашмат менш, але ўсё роўна было вельмі крыўдна.

А зараз яна трымала ў руках столькі, колькі ў лепшым выпадку магла атрымаць за яшчэ адзін водпуск. Ды і то не адразу! Успомніла, колькі гэтым летам наездзілася ў школу, пакуль нарэшце атрымала свае "адпускныя"!

...Нешта падказвала ёй, што грошы — сапраўдныя. Выгляд у іх быў нейкі такі — салідны, ці што. Яны прыемна хрумсцелі ў руках, вопратка ж прэзідэнта была выразна шурпатая — яна чытала, што гэта адна з прыкмет сапраўдных долараў.

Пакруціўшы грошы так і сяк, даўшы Еве іх панюхаць — тая зрабіла гэта з сур'ёзным выглядам, Вольга зірнула на гадзіннік — было ўжо каля 13-й гадзіны. Яна нават забылася, навошта выходзіла з дому! А хацела ж на апошнія пяць тысяч купіць батон ды бутэльку малака. І гэта ж ёй так пашанцавала, Божухна! Бо хаця назаўтра і быў дзень зарплаты, але было ўжо вядома, што грошы не дадуць — няма ў банку. Паслязаўтра — субота, потым — нядзеля. Вось і лічы! Добра б, калі далі ў панядзелак! Якраз пасля канікулаў.

Настаўнікі абураліся:

— Дык што ж гэта такое?! Калі ж дадуць?! У кашальку зусім пуста, бо ўсё на Новы год патрачана! Ды яшчэ і ў даўгі...

І пачалася ўжо прывычная гамонка: пра даўгі, пра тое, як дзяржава не паважае іх — настаўнікаў, пра тое, што іх праца нікому непатрэбная... Вольга таксама прымала ўдзел у размовах і гэтак жа абуралася, хаця даўгоў у яе ніколі не было. Не таму, што яна багатая ці так ужо ўмее жыць — зусім не! Грошы ў яе знікалі вельмі хутка і немаведама куды, бо яна так і не адзвычаілася за гэтыя гады ад салодкага, якое заўсёды любіла, не магла адмовіцца ад газет, добрага мыла — ды ці мала што! На гэтыя дробязі і разыходзіліся ўсе грошы. А каб купіць якуюнебудзь дарагую рэч — смешна падумаць! Таму Вольга і не думала. Калі грошы падыходзілі да канца, яна проста не заходзіла ў крамы, абыходзіла за паўвярсты газетныя кіёскі і перабівалася нейкімі сухімі скарынкамі ды здаючы бутэлькі з-пад малака.

Якое шчасце, што дачка так удала выйшла замуж за маладога бізнесмена! Цяпер можна было са спакойным сэрцам ісці дадому, нават калі там была пустая лядоўня. Бо сама яна магла пагаладаць дні 2-3, нічога страшнага. Горш было з Евай, якая не ведала, што такое зарплата і чаму яе выдаюць са спазненнем, а калі і выдаюць, то грошай заўсёды не хапае. Але і з Евай неяк выкручвалася. Часам з Мінска прыязджала дачка з зяцем, прывозілі для сучкі касцей, аўсянкі, костнага фаршу.

— А ты так і не навучылася траціць грошы? — іранічна пыталася дачка. — Зноў у лядоўні пустата! Можа, даць табе колькі?

— Не, ні ў якім разе! — шчыра пярэчыла Вольга. — Неяк абыдуся! Добра, што пра Еву не забыліся!

Яна была шчырай, адмаўляючыся ад грошай дачкі, бо больш за ўсё на свеце цаніла незалежнасць. Не хацелася быць абавязанай нават родным. Добра, што ў дачкі ўсё ёсць — машыну нядаўна купілі, кватэра цудоўная. Вольга была не вельмі патрабавальная ў гэтым сэнсе, ніколі не марыла пра раскошу...

Так, трэба зараз грошы памяняць. На рынку ў гэты час яшчэ круцяцца валютчыкі. Але... Што, калі грошы згубіў нехта з іх? Што, калі па нейкіх няўлоўных прыкметах гэты "нехта" пазнае свае долары? А калі побач зноў будзе стаяць той абшарпаны мужчына ў курт-цы "з Чабурашкі", як называла штучнае футра яе дачка?!

Не, лепш памяняць у дзяржаўным пункце абмену! Толькі б грошы аказаліся не фальшывыя! Вольга ўважліва прыглядзелася да лічбы "100": можа, нулі прыклееныя? Не, здаецца, усё нармальна.

Жанчына пераапранулася, начапіла акуляры, якія ніколі не насіла, а толькі чытала ў іх. Уся гэтая канспірацыя была дзеля таго, каб яе не пазналі тыя, хто мог бачыць, як яна знайшла такое багацце. І дарогу выбрала іншую — так надзейней.

З пункту абмену яна выйшла шчаслівая. Грошы былі сапраўдныя. Ніхто не чакаў яе там з пытаннем:

— А ці не вы, шаноўная, знайшлі гэтыя грошы паўгадзіны таму там і там?!

Беларускія грошы — больш за два мільёны — нават не ўлезлі ў кашалёк, хаця ў Вольгі ён быў даволі вялікі (праўду кажучы, не па такіх грашах, як яна зарабляла!). Яна адчувала сябе Ротшыльдам ці, можа, султанам Брунэя.

У каторы раз ужо ўспомнілася, як яшчэ студэнткай знайшла ў аўдыторыі прыгожы кашалёчак з нямалай па тых часах сумай — дзевятнаццаць рублёў з капейкамі. Аўдыторыя была пустая — папярэдняя група даўно выйшла, а яны яшчэ толькі заходзілі. У той момант, калі Вольга ўзяла кашалёк, зайшла Райка, па мянушцы Чыла. Вользе падалося, што яна бачыла знаходку. Ледзь даседзела да канца заняткаў, але кашалёк узяла. Чыла ж маўчала. Можа, яна і не заўважыла нічога, а Вользе проста падалося? Нездарма ж кажуць: на злодзеі і шапка гарыць. Яна, вядома, не злодзей, але ўсё ж, усё ж...

Назаўтра, не вытрымаўшы пачуцця нейкай дурной няёмкасці і напружання, Вольга напісала аб'яву пра знаходку, а грошы аднесла ў дэканат. Адразу стала лёгка на душы.

Толькі на пятым курсе яна расказала гэтую гісторыю дзяўчатам. Тыя доўга смяяліся і абазвалі яе, будучую настаўніцу гісторыі і замежнай мовы дурніцай.

Вядома ж, дурніца! Сёння ёй бы і ў галаву не прыйшло занесці грошы, напрыклад, у міліцыю. Там бы забралі сабе, прапілі, ды яшчэ з яе і пасмяяліся! Баялася толькі, каб не знайшоўся гаспадар грошай, каб не схапіў за руку, але сумненняў у тым, што цяпер, памяняныя, належаць яны ёй, у Вольгі не было.

...Ну, куды зараз?

Раней яна перш за ўсё пабегла б у "кніжны" і выйшла б з цэлым стосам кніг. Але даўно ўжо туды не хацелася заходзіць. Галеча адвучыла купляць з кожнай палучкі кніжкі. Добра, хоць на газеты часам грошай хапае.

Была і яшчэ адна прычына, з якой яна ўжо не любіла хадзіць у кнігарню. Гады са два таму, пражыўшыся ў водпуску дашчэнту, яна панесла здаваць кнігі на камісію. Потым з няёмкасцю заходзіла даведвацца, ці прадалі кнігі. Яна не магла прымусіць сябе спытаць пра гэта, а проста глядзела, ці стаяць яе кнігі на паліцах. Грошы яна атрымала недзе праз два тыдні, але заходзіць сюды больш не хацелася. Здавалася, прадаўшчыцы, пабачыўшы яе, абавязкова павінны падумаць:

"Вось, купляла-купляла, а зараз не купляе, толькі здае!"

Павагаўшыся хвіліну, Вольга ўсё ж зайшла. Ля касы стаяў дзяцюк з вялізнай торбай і пытаўся, ці прымаюць кнігі ў насельніцтва. Касірка адказала:

— Пакуль што не. Сваё прадаць не можам — зусім няма пакупнікоў.

Што праўда — то праўда. У кнігарні было ціха і пуста. Цяжка было паверыць, што ўсяго гады са тры таму тут за добрай кнігай трэба было ў чарзе настаяцца. Бывалі нават такія дні, калі адну прадаўшчыцу ставілі ля дзвярэй, і яна "порцыямі" запускала і выпускала пакупнікоў.

Калі тое было! Сёння магазін здаваўся нейкім няўтульным. цьмяным — як і многія іншыя магазіны ў яе горадзе. Сёння жыццё віравала толькі на рынку, дзе ў суботу ды нядзелю было не праціснуцца. Праўда, часам здавалася, што прадаўцоў тут больш, чым пакупнікоў, куплялі таксама ў асноўным розныя дробязі ды харчаванне, але ж тут было жыццё, а ў кнігарні — ціхае паміранне.

Вольга падышла бліжэй да паліц. Божа, якія цэны! Тоесёе яна б купіла, але... І так дом поўны кніг — ды якіх кніг! А які сэнс у гэтых кнігах, у яе ведах?! Яна даўно зразумела, што настаўніку зусім неабавязкова на ўроках са скуры вылузвацца, штодзённа не толькі вучыць, але і самой вучыцца — каб на яе ўроках было цікава, так цікава, што можна нават забыцца на колькі хвілін пра халадэчу ў школе ды пра свае "бізнес-справы". Бо многія вучні некалькі гадоў ужо займаліся тым, што называецца "купі-прадай", і часта трымалі ў руках такія ж паперкі, якія сёння знайшла іх настаўніца! Дык вось, няма сэнсу нешта выдумляць на ўроках! Усё роўна атрымаеш за гэта голы кукіш. І калі Вольга працягвала рыхтавацца да ўрокаў, дык неяк больш па звычцы, аўтаматычна. Ды і сорамна было трохі перад вучнямі.

Вось і паліца з беларускімі кнігамі. Ёсць добрыя і для яе — настаўніцы гісторыі. Але і тут — кошты! Ды і каму зараз гэта ўсё патрэбна?!

А спачатку нібыта павеяла свежым паветрам, з'явілася нейкая надзея. Вольга ўспомніла свае спрэчкі з вучнямі, якія не хацелі вывучаць беларускую гісторыю на беларускай мове. Гэта ўсё былі дзеткі ваенных, таму на тэму беларускага адраджэння з імі размаўляць было цяжкавата. Але прайшоў час, дзеці неяк прызвычаіліся, пачалі адказваць так-сяк па-беларуску. Толькі гэта ўжо не грэла сэрца Вользе.

Тое, што адбывалася навокал, нагадвала Вользе нейкую дурную гульню з пераапрананнямі. Ну, зусім як у фільме "Вяселле ў Малінаўцы"! Яна яшчэ вяла гісторыю беларускага краю па-беларуску, але калі хто-небудзь заводзіў старую песню пра "навошта нам гэтая беларуская мова", Вольга спакойна і холадна адказвала:

— Пакуль падручнікі на беларускай мове — будзем вучыцца па-беларуску. Як будзе на рускай — пяройдзем на рускую мову. Можна і па-англійску.

Вольга ўсміхнулася: асноўная маса вучняў аднолькава "добра" валодала што рускай, што беларускай, што англійскай мовамі.

...Нічога не купіўшы, Вольга выйшла з кнігарні.

У кіёску было тое, што яна купляла заўсёды. Дзядок, які толькі што набыў газету "ТОВАРИЩ", аж падскочыў, калі пачуў, што купляе гэта даволі маладая і прыстойная на выгляд жанчына.

— Бэнээф пракляты! — прасіпеў ён. — Вось жа, ніяк не выведуцца, фашысты-нацыяналісты!

Вользе стала смешна. Не, не для яе ўсе гэтыя партыі ды франты. Ніколі не была яна камуністкай, хаця для гісторыка гэта было вельмі пажадана і адкрывала шлях да кар'еры. Але і ў фронтаўскія гульні не цягнула. Калі прачытала, што былы кумір ажаніўся, адразу падумала: "Спецыяльна, каб на будучых прэзідэнцкіх выбарах не папракалі, што не жанаты!". І скрывілася, нібы пакаштавала кіслага.

Адышла ад кіёска. Вырашыла: зараз пойдзе дадому, вось можа толькі шакаладку купіць ды мандарынаў, а ўжо заўтра пойдзе з ранку на рынак (канікулы ж, у школу можна прыехаць і пазней!) і ўжо там паглядзіць, што можна купіць.

---

Марцін КОЎЗКІ

— Лічу, што выратаваць нас мог бы спорт. Прапаную ўсе спартыўныя памяшканні ператварыць у дыскатэкі, глядзельныя залы, казіно, усе стадыёны — у рынкі, надаць спартыўным арганізацыям статус камерцыйных і дазволіць гандляваць спіртным, у спартыўных школах рыхтаваць адных толькі рэкардсменаў і прадаваць за мяжу, грошай на спартыўна-масавую работу не выдаткоўваць...

— Трымай, дружа, усё ўжо зроблена.
— Ну і што?
— А нішто.

●

Скора? А як — умомант ці тут жа, маланкава ці кульмігом, стрымгалоў ці наўскач, неадкладна ці неўзабаве, бегма ці лецьма, борздка ці ўпохапкі, кулём ці наўскапыта, хапатліва ці ўчвалам, птушкай ці куляй? Мала якое слова мае ў нашай мове дзесяткі падобных вызначэнняў і яшчэ больш тлумачэнняў, чаму "скора" не сталася хуткім.

●

Няхай у Краіне Саветаў панавала страшэнная дыктатура, любоў да "праўдыра" набыла небывалы размах. І дзіўна, што існавала гэта бязлікая абрэвіятура — ГУЛАГ, калі ўсё грандыёзнае прысвячалася Сталіну, і мог бы гучэць званчэйшы назоў — СТАЛАГ. Мы б усе дасюль гаварылі "Архіпелаг СТАЛАГ".

●

Прыслужніку. Пярэстая ў вас каманда — нягоднікі і баязліўцы. Блізіцца расплата, гэта кожнаму зразумела. Дык няхай баяцца тыя, у каго ў пуху рыльца, а ты чаго баішся быць смелым?

●

— Такі вось, браток, паварот у тэме: кніг выдаецца менш, чым існуе прэмій. — Колькі ж у вас літаратурных узнагарод? — Адна на год.

●

Надпіс на цаглянай сцяне рашуча патрабаваў: "Не!" Надпіс двойчы замазвалі, а ён паявіўся зноў — усяго некалькі слоў крэйдай па агароджы: "Такая вось свабода!" Вы не паверыце, цяпер ля агароджы стаіць міліцыянер.

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ
Саюз беларускіх пісьменнікаў;
рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

Галоўны рэдактар
Уладзімір НЯКЛЯЕЎ



**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск,
вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 2332-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 2332-525, 2331-985
аддзелы:
публіцыстыкі — 2332-525
пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985
літаратурнага жыцця — 2332-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985
паэзіі і прозы — 2332-204
музыкі — 2332-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 2332-153
выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 2332-462
навін — 2332-462
мастацкага афармлення — 2332-204
фотакарэспандэнт — 2332-462
бухгалтэрыя — 2682-660



**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня
"Беларускі Дом друку"
(г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 4683
Нумар падпісаны 16.1.1997 г.
Заказ 3231/Г

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12